PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (2148) Год XLII Беласток 13 ліпеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Канікулы на вёсцы.* Фота Міры ЛУКШЫ

# Каб не знішчыў нас час

Ганна Кандрацюк

**Думка пра пабудову новай школы ў Ласінцы апантала нават пенсіянераў і старых кавалераў. Гэтыя апошнія паабяцалі не толькі дапамагаць (грамадскім чынам) у пабудове, але і пажаніцца. І, зразумела, нажыць будучых школьнікаў.**

## Зварот

***Грамадскага камітэта пабудовы школы ў Ласінцы Нарваўскай гміны Беластоцкага ваяводства***

Жыхары вёскі Ласінка і дзейнічаючы ад іх імені Грамадскі камітэт узялі на сябе цяжкую, але магчымую да здзяйснення задачу пабудаваць новы, прыстасаваны да патрэб сучаснай асветы, школьны аб'ект. Гэтая задума мабілізуе да працы не толькі нас, але і ўсіх астатніх жыхароў гміны, якія жадаюць, каб дзеці і моладзь, што жывуць далёка ад адміністрацыйных цэнтраў, мелі добрыя ўмовы для свайго развіцця і навукі. Мы свядомы таго, што пабудова сучаснай школы патрабуе значных фінансавых сродкаў. Грошы для гэтай мэты дадуць школьная адміністрацыя, самаўрад і бацькі. Ведаем таксама, што грамадская ахвярнасць і жаданне падтрымаць іншых дапамаглі ажыццявіць не адну вялікую мэту. Верым, што і наша просьба падтрымаць нас фінансава ў ажыццяўленні гэтага мерапрыемства сустрэнецца з Вашай добразычлівасцю. Будзем вельмі ўдзячны за любую форму падтрымкі.

**З пашанай**
**Старшыня Грамадскага камітэта**
**а. Георгій Кос**

Грашовыя ахвяраванні просім пералічваць на рахунак: **Bank Spółdzielczy w Narwi, Nr 80860004-1560-27-016-11, Społeczny Komitet Budowy Szkoły, 17-212 Łosinka.**

Ласінка, самае вялікае сяло ў Нарваўскай гміне. У пачатку вёскі красуецца свежаадрамантаваная царква. Насупраць святыні новы будынак плябаніі. У цэнтры — дзве прыватныя крамы, пошта, бібліятэка, пажарнае дэпо, асяродак здароўя. Вёску замыкаюць два драўляныя будынкі пачатковай школы. Зараз у ёй 64 навучэнцаў. І калі вы папытаеце ў сустрэтага жыхара Ласінкі: „Што ў вас новага чуваць?", безумоўна пачуеце адказ: „Будзем будаваць новую школу".

— Думка пра пабудову школы нарадзілася шэсць гадоў назад, — успамінае Вера Дудзіч, дырэктар Пачатковай школы ў Ласінцы. — Каб тады ўзяліся, мабыць, і новая школа ўжо стаяла б. Час спрыяльны быў. Цяпер цяжка нават гаварыць пра такую ініцыятыву. Школы з малой колькасцю вучняў звычайна закрываюць.

Спадарыня Дудзіч заадно і радная ў гміне. У сакавіку г.г. нарваўскія радныя падтрымалі задуму жыхароў Ласінкі. На васемнаццаць галасоў шэсць было супраць.

— Калі пачыналі, — успамінаюць настаўнікі, — усе былі супраць нас.

Леанідас Казлоў, старшыня Рады гміны ў Нарве, кажа:

[працяг ☞ 3]



*Настаўнікі і сябры школы ў Ласінцы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# На З'ездзе БНФ „Адраджэнне"

**Напярэдадні IV З'езда Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" прапаў Лявон Баршчэўскі, які выконваў абавязкі старшыні арганізацыі** ў сувязі з эміграцыяй Зянона Пазьняка. Неўзабаве Баршчэўскі знайшоўся. У турме, куды яго запёрлі на пяць дзён у выніку судовага прысуду за сарганізаванне дэманстрацыі яшчэ ў студзені. Пасля таго, як пра зняволенне апазіцыйнага лідэра забубнілі сродкі масавай інфармацыі, перш за ўсё расейскія, Баршчэўскага адпусцілі з турмы на суботу з умовай, што вернецца туды ў нядзелю раніцай, каб адсядзець у турме да канца.

Не спраўдзіліся таксама апасенні фронтаўцаў, што дзяржаўныя ўлады сарвуць з'езд пад выглядам, напрыклад, чуткі аб замініраванні Палаца тонкасуконнікаў, дзе з'езд меў адбыцца.

У суботу 26 чэрвеня ў згаданым палацы сабралася каля 300 дэлегатаў і шмат запрошаных гасцей. Разлічаная на 700 месц зала была поўная. Прысутныя заслухалі выступленне Зянона Пазьняка, на жаль, з відэакасеты. Правадыр заклікаў да змагання. Зала на канец апладзіравала стоячы і скандзіравала „Жыве Беларусь!" Наогул, фронт прэзентаваў згуртаванасць, аднадумнасць і аптымізм.

З агульнага фону вылучылася адно выступленне намесніка старшыні Юрыя Хадыкі. Ён заклікаў да самакрытыкі, пошукаў прычыны бясконцых паражэнняў. Толькі ён дакараў Пазьняка. Не згаджаўся, што палітык павінен быць у эміграцыі, а не ў турме, хаця так лічыў правадыр пралетарыяту. Назваў немаральным закліканне з эміграцыі, каб людзі з голымі рукамі ішлі на браніраваныя машыны.

На жаль, ніякай дыскусіі не атрымалася. З'езд аднагалосна вырашыў, што адзіным кандыдатам на пасаду старшыні можа быць толькі З. Пазьняк. Яго і выбралі. Затое не выбралі ў Сойм асоб прапанаваных Ю. Хадыкам.

Былі ў з'езда і станоўчыя рысы. Яго персанальны склад зрабіўся больш шэрым, звычайным чымся калісьці, але затое больш закаранелым у людзях на правінцыі. Рады фронту папоўніла бойкая моладзь, у асноўным студэнцкая. Доказы сваёй бойкасці Малады Фронт даў ужо падчас бітваў з АМОНам.

БНФ — гэта безумоўна адзіная сапраўдная партыя ў Беларусі. Усё ж такі яна можа разлічваць на падтрымку толькі каля 15% грамадства. На жаль, падчас з'езда пра выхад з гэтага тупіка практычна не гаварылася. Усе кажуць, што нешта будзе на восень. Поживём — увидим.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

# Мы прачыталі

*Асіміляцыя нацыянальных меншасцей адбываецца па ўсім свеце, але ў дачыненні да нас яе ўжо не будзе стрымліваць прысутнасць Беларусі. І я баюся, што на будучай расійска-польскай мяжы апусціцца новая „жалезная заслона" і адновіцца сітуацыя з 30-х гадоў. Тады апынуўшыся пад уціскам, беларуская меншасць радыкалізавалася, а скарысталі гэта ў Крамлі. Жадаючы аслабіць Польшчу, якая не хацела ўваходзіць у сферу ўплываў Расіі, тая дапамагала КПЗБ і Грамадзе. Калі заўтра Усход захоча ўкалоць НАТО, дык ён захоча зрабіць гэта ў Польшчы рукамі беларускай меншасці,* — сказаў Міраслаў Урбановіч, беларус з Беласточчыны.

*Літаратура і мастацтва, н-р 20*

* * *

*У Магілёўскай вобласці разгарнулася кампанія па стварэнні новай маладзёжнай арганізацыі патрыятычнага кірунку, пры тым патрыятызму ў разуменні сённяшняй беларускай улады. Моладзь адразу адрэагавала на ініцыятыву з высокіх кабінетаў, назваўшы новы маладзёжны саюз Лукамолам. Прэзідэнт запрасіў моладзь беларускую ў светлае мінулае.*

*Тыднёвік магілёўскі, н-р 4*

Жартаўнік!

* * *

*Пить или не пить? Такого „гамлетовского" вопроса нет у белорусского человека. Белорусы стали пить больше. Пьют теперь больше в одиночестве, как то поуглам. Вот раньше пили в коллективе, на людях, по праздникам. От чего пьёт белорусский народ? Говорят нам чиновники: „Пьёт и слава Богу". Гражданин суверенной Беларуси имеет полное право воскликнуть: Да здравствует...*

*Свобода, н-р 64*

Палякі так пілі падчас ваеннага становішча.

* * *

*У Магілёўскай вобласці, як у савецкія часы, прайшоў злёт піянераў, прысвечаны 75-й гадавіне піянерскай арганізацыі імя дзеда Леніна. Перад дэлегатамі выступіў губернатар Касцюкевіч і саракагадовыя піянерскія функцыянеры. Яны ўручалі дзецям граматы і гаварылі чаму трэба любіць Радзіму, якой кіруе Лукашэнка і якая светлая будучыня чакае нас усіх, калі толькі Аляксандр Рыгоравіч будзе ўзначальваць нашу краіну. А ўсё скончылася радасным спяваннем піянерскіх і бальшавіцкіх песняў.*

*Свабода, н-р 61*

Так, безумоўна, моладзь — гэта будучыня кожнай нацыі. Будучыня будзе аднак такая, як яе акрэсліць знакаміты Аляксандр Рыгоравіч.

* * *

*Лукашэнка сёння настойліва патрабуе, каб Масква заплаціла яму за тое, што „Беларусь і Расія зноў разам". Тым часам спікер расійскай Дзярждумы Генадзь Селязнёў прабівае новую песню для новага саюза. Пакуль што, аднак, расійскія і беларускія парламентарыі, якія праводзілі супольны сход у Брэсце спявалі там „Союз нерушимый рэспублик свободных сплотила навеки великая Русь..."*

*Свабода, н-р 65*

* * *

*System prawny w Polsce bardziej dba o interesy przestępcy niż jego ofiary.*

*Kurier Poranny, nr 144*

Таму ўжо сёння вечарам на вуліцы хутчэй можна сустрэць люмпена чым нармальнага чалавека.

* * *

*Poobijani, zwarci, gotowi — czyli Akcja Wyborcza „Solidarność" rusza do wyborów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 143*

* * *

*Незвычайнае паведамленне прыйшло з суседняй Польшчы: сюды на лета не вярнулася пэўная частка буслоў, што зімавалі ў Афрыцы. Пакружыўшыся некалькі тыдняў над Турцыяй і Балканамі, буслы павярнулі назад. Такія з'явы не назіраліся ўжо не менш як сто гадоў. Калі бусел не вяртаецца ў сваё гняздо, у народзе лічыцца гэта кепскай прыкметай. Які ж знак падаюць нам буслы?*

*Літаратура і мастацтва, н-р 20*

Усё з-за гэтай гаварыльні пра аборты. Буслы таксама даведаліся, што тут чакае іх беспрацоўе.

* * *

*Беларус любіць хутка і смачна паесці,* — інфармуе

*Звязда, н-р 112*

* * *

*Імідж Беларусі залежыць ад поспехаў спартсменаў,* — сказаў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг.

*Народная газета, н-р 122*

Знакамітая канстатацыя!

* * *

*Na „Pronar" narzekają księża prawosławni. Podobno od kilku lat nie wsparł finansowo cerkwi.*

*Kurier Poranny, nr 142*

Уласнік „Пронара" Сяргей Мартынюк — піша газета — з'яўляецца найбагацейшым чалавекам у паўночна-ўсходняй Польшчы.

* * *

*W zbliżającej się kampanii wyborczej poseł Ireneusz Sekuła propaguje jazdę konną.*

*Życie, nr 142*

Ułan Sekuła — гучыць цалкам пристойна.

# З мінулага тыдня

**Міхал Кандрацюк** атрымаў з рук прэзідэнта РП прафесарскае званне. Нарадзіўся ён у 1934 годзе ў Дубінах каля Гайнаўкі. Працуе на Гуманістычным аддзяленні Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і займаецца вывучэннем усходнеславянскіх і польскіх гаворак ды даследаваннем анамастыкі на польска-беларуска-ўкраінскім і славянска-балцкім памежжы. Аўтар 120 навуковых распрацовак, якія друкаваліся ў айчынных і замежных выданнях (у Беларусі, Украіне, Расеі, Літве, Славакіі і Нямеччыне). Ініцыятар стварэння і суарганізатар Лабараторыі беларусістыкі ў Інстытуце ўсходнеславянскай філалогіі Філіяла ВУ ў Беластоку.

**Саюз насельніцтва сілезскай нацыянальнасці** можа быць занесены ў рэестр таварыстваў, — вырашыў Ваяводскі суд у Катавіцах. Заяву аб юрыдычным прызнанні сілезскай (шлёнскай) нацыянальнай меншасці падпісала 109 дзеячаў Руху за аўтаномію Сілезіі і Сілезскага акадэмічнага саюза. Супраць рэгістрацыі СНСН раней выказваліся Ваяводская ўправа ў Катавіцах і Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, якія не згаджаюцца са статутным запісам, у якім гаворыцца, што арганізацыя гуртуе „сілезскую нацыянальную меншасць". Катавіцкі ваявода заявіў, што падасць скаргу ў Апеляцыйны суд.

**Крыніца '97** — пад такім лозунгам у Дабродзені Чанстахоўскага ваяводства праходзіла ў канцы чэрвеня прэзентацыя мастацкай творчасці нацыянальных і этнічных меншасцей. Беларускі фальклор на агляддзе прадстаўляла **„Маланка"** з Бельска-Падляшскага. Бельскія калектыў даў канцэрт таксама жыхарам Клабуцка.

**XV Фестываль украінскай культуры** ў Пярэмышлі, нягледзячы на спробы прэзідэнта горада і мясцовых дзеячаў сарваць мерапрыемства, прайшоў паспяхова. Ганаровым госцем фестывалю быў прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч**, які сказаў: „Мая прысутнасць — гэта доказ прызнання ўрада для дасягненняў украінскай грамадскасці ў нашай краіне. Польшча ў мінулым бывала мачыхай для сваіх грамадзян, у тым ліку і для нацыянальных меншасцей, але хоча быць маці для ўсіх".

**Ave Marusia** — так рэжысёр **Яцэк Бромскі** назваў свой мастацкі фільм, акцыя якога адбываецца на Беласточчыне. Расказвае ён гісторыю дзяўчыны з Менска, якая прыязджае гандляваць у Польшчу, але не вельмі ведае як гэта робіцца. Дзяўчына закахаецца ў мясцовага хлопца, сутыкнецца з мафіяй, паліцыянтамі, бізнесменамі і ксяндзамі. Галоўную ролю ў камедыі паводле сцэнарыя **Тадэўша Хмялеўскага** выконваць будзе акцёрка з Масквы. У фільме здымацца будуць акцёры Беластоцкага лялечнага тэатра і мясцовыя натуршчыкі.

**Драўляныя цэрквы Беласточчыны** — гэта назва фотавыставы **Эвы і Анджэя Кэчынскіх**, якая экспануецца ў асяродку культуры ў Белавежы.

**У Плёсках** каля апдачынковага цэнтра адбыліся пажарныя манеўры. У занятках прымала ўдзел шэсць добраахвотных каманд і дзве прафесійныя часці з Бельска-Падляшскага. Мэтай вучэнняў было садзеянне пажарнікаў — дабравольцаў і прафесіяналаў — з лясной ахоўай пры тушэнні лесу і ляснога подсцілу.

**Раённы суд у Ярацінe** Калішскага ваяводства аштрафаваў жыхара гэтага горада на 1000 зл. за тое, што ўвёў ён паліцыянтаў у зман сказаўшы ім, што называецца **Уладзімір Ільіч Ленін**.

# Весткі з Беларусі

**Вывучаецца сітуацыя ў Беларусі**

Закрытыя слуханні па сітуацыі ў Беларусі былі адным з пытанняў парадку дня сесіі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы ў Страсбургу. У Палацы Еўропы па ініцыятыве старшыні Парламенцкай Асамблеі СЕ Лені Фішэр былі запрошаны як дзяржаўныя палітычныя дзеячы Беларусі, так і прадстаўнікі апазіцыі.

**Магутны ўраган**

Пад канец чэрвеня дзве гадзіны бушаваў вечарам магутны ўраган над цэнтральнымі і некаторымі заходнімі раёнамі Беларусі. Бедства павялічвалася лівінямі і навальніцамі. Скорасць ветру дасягала 32 метраў у секунду. Ад разгулу стыхіі сур'ёзна пацярпелі каля двух дзесяткаў адміністрацыйных раёнаў Менскай, Брэсцкай і Магілёўскай абласцей. Асабліва моцнае разбурэнне адзначана ў Івацэвіцкім, Ганцавіцкім і Іванаўскім раёнах Брэстчыны.

**Экстранныя меры**

Адбылося пасяджэнне Савета Міністраў Беларусі, на якім разгледжаны экстранныя меры па ліквідацыі наступстваў урагану, які нядаўна пранёсся па тэрыторыі Менскай і Брэсцкай абласцей. Па папярэдніх падліках для хутчэйшай ліквідацыі вынікаў стыхіі неабходна выдзеліць для Менскай вобласці 12 млрд. рублёў, Брэсцкай — 6 млрд. Сродкі гэтыя пойдуць на ўзвядзенне новых ліній электраперадач, будаўніцтва і рамонт сельскагаспадарчых аб'ектаў і папаўненне жыллёвага фонду для пацярпелых.

**Дабрачынная акцыя**

Больш за 5 тон адзення атрымалага ад шведскіх калег адправіў жыхарам Брэстчыны пацярпелым ад урагану Абласны камітэт Беларускага таварыства Чырвонага крыжа. Ён таксама звярнуўся да ўсіх дзяржаўных і камерцыйных структур вобласці з заклікам уключыцца ў дабрачынную акцыю па аказанні фінансавай і матэрыяльнай дапамогі пацярпелым ад стыхіі. Падобны зварот прынялі і абласныя прафсаюзы.

**Народжаныя ў суседняй дзяржаве**

Месцанараджэннем беларусаў з Лёзненшчыны іншы раз становіцца Рудня Смаленскай вобласці Расейскай Федэрацыі, а жыхароў Смаленшчыны — Лёзна. Згодна з дамоўленасцю між адміністрацыямі прыгранічных раёнаў, у выпадку неабходнасці (скажам, рамонту радзільнага дома) парадзіх прымаюць у суседняй дзяржаве. На сумеснай калегіі служб аховы здароўя Віцебшчыны і Смаленшчыны заключана пагадненне аб аказанні ўзаемнай бясплатнай медыцынскай дапамогі насельніцтву дзвюх абласцей.

**Сумеснае прадпрыемства**

Тэхналогія капітальнага рамонту аўтобусаў маркі „Ікарус", з поспехам укаранёна на Гомельскім аўтарамонтным заводзе, зацікавіла і расіян. На базе аналагічнага Бранскага завода створана сумеснае беларуска-расейскае прадпрыемства. Выгада ад яго чакаецца ўзаемная. У заводаў з'явіўся не толькі дадатковы стымул павышаць прадукцыйнасць працы, але і магчымасць стварыць новыя рабочыя месцы.

**Грамадзянін свету**

Старшыня Беларускага камітэта міру Іван Кірычэнка атрымаў пасведчанне „Грамадзянін свету". Выдадзена яно міжнародным рэгістрам грамадзян свету, створаным у 1946 годзе ў Парыжы французам Гі Маршанам. Адметная рыса грамадзян свету — адданасць агульначалавечым каштоўнасцям, прыстойнасці і справядлівасці, павазе да жыцця і годнасці кожнага чалавека.

**Беларускі „Форд"**

Група беларускіх парламентарыяў наведала ў Апчаку сумеснае прадпрыемства „Форд Юніён". Тут ужо сабраны першыя дваццаць аўтамабіляў мадэляў „Форд-эскорт" і „Форд-транзіт". Спецыялісты прадпрыемства лічаць, што першы этап арганізацыі новай вытворчасці завершаны. Галоўнае, што ўжо ёсць высокакваліфікаваныя кадры, здольныя рэалізаваць самыя сур'ёзныя тэхнічныя задачы. Дарэчы, у планах прадпрыемства — арганізацыя вытворчасці шэрагу камплектуючых непасрэдна на тэрыторыі Беларусі. Аднак з урачыстасцямі „Форд Юніён" не спяшаецца. Афіцыйная прэзентацыя першага аўтамабіля намечана на канец ліпеня.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Гульні купальскай ночы ў Белавежы.
- Ці будзе беларускі гурток у польскім Сейме?
- Новае дзяржаўнае свята ў Беларусі.

# Каб не знішчыў нас час

[1 ☞ працяг]

— Большасць радных адмоўна паставілася да ініцыятывы Ласінкі. Зразумела, зручней далучыць чарговую школу да Нарвы. У гміне заўсёды не хапае грошай. А тут людзі хочуць рабіць нешта супраць ветру?

Спадар Казлоў галасаваў за пабудову школы.

— Калі палічыць кошты даезду, трэба было б выдаць пяць мільярдаў (старых злотых) на пакупку адных толькі аўтобусаў. Ды і як зімой пазбіраць вучняў з такіх хутароў як Вуснаршчына?

Старшыня рады згадвае і пра чалавечы бок праблемы: бацькі будуць хваляванца, калі прыйдзецца ім падымаць дзяцей на шостую гадзіну раніцы.

— „Ніва”, як газета нацыянальнай меншасці, павінна змагацца разам з намі, — кажа настаўнік Яўген Кавальскі. — Тут усе дзеці вучацца беларускай мове.

У Ласінцы ніколі не ўзнікла праблема „непатрэбнасці” гэтага прадмета. Нават на перапынках дзеці гавораць пасвойму. У школе дзейнічаюць беларускія мастацкія калектывы, тэатральны гурток, дэкламатарскі і вакальная група „Лісічкі”. І, як адзначаюць настаўнікі, культурная дзейнасць трымаецца дзякуючы не толькі ім, але бацькам і мясцовым энтузіястам. Рэпертуар для школьнага тэатральнага гуртка стварае бібліятэкарка, спадарыня Аліцыя Станько, „Лісічкі” вядзе матушка Ала Кос, бацюшка Георгій Кос старшынює Грамадскаму камітэту пабудовы школы.

— У Ласінцы людзі моцныя і аб'яднаныя, — кажа дырэктар Гміннай бібліятэкі ў Нарве Ала Сяткоўская.

Мая субяседніца адзначае, што Дні культуры ў Нарве цяжка ўявіць без самадзейнікаў з Ласінкі.

— І яшчэ такая цікавінка, — кажа спадарыня Сяткоўская, калі загаварылі пра ліквідацыю бібліятэкі ў Ласінцы. — Там узнік бунт. Людзі баранілі бібліятэку як самае дарагое дабро. Такое на вёсках цяпер не сустракаецца.

Сапраўды, пашчасціла Ласінцы. Перш за ўсё тут жыве многа сваёй інтэлігенцыі — настаўнікі, бібліятэкарка, студэнты, лекар, бацюшка. Ёсць таксама свае бізнесмены.

Ян Селеванюк, мясцовы прадпрымальнік і бацька шасцярых сыноў, вельмі заангажаваны ў жыццё школы. Сёлета за актыўнасць атрымаў ён узнагароду настаўнікаў і гмінных улад.

— У гміне гавораць: навошта вам тая школа? — кажа Ян Селеванюк. — Пэўна, найлепш наракаць і нічога не рабіць. Або затапіць вёску і зрабіць чарговы Семяноўскі *заліў*.

Ян Селеванюк перакананы, што Ласінка перапрымае цяжкі час.

— Цяпер ужо не варта ўцякаць у горад. І на вёсцы можна прыстойна жыць. Школа, зразумела, неабходная. Гэта культурны цэнтр усяго наваколля.

Думку Яна Селеванюка падтрымліваюць настаўнікі.

— Трэба яшчэ нашага бацюшку падгаварыць, каб старых кавалераў пажаніў, — кажа Ян Грынявіцкі.

У парафіі сорак двух гатовых да жаніцьбы хлопцаў.

— І мы б памаглі, — уключаецца Яўген Кавальскі. — У нашых людзей такая традыцыя, што хлопцаў сваты жэняць. Вядома, традыцыю цяжка перарасці. Можа лепш падумаць пра імпарт вясковых гаспадынь?



*Матушка Ала Кос — вядучая „Лісічак”.*
Фота Міры ЛУКШЫ

Тым больш настаўнікі пераймаюцца лёсам нежанатых, бо і старыя кавалеры моцна заангажаваліся ў пабудову новай школы. Грамадскі абавязак апантаў іх да тае ступені, што пачалі думаць пра будучыню. У Ласінцы і наваколлі з гонарам гавораць пра дырэктар Веру Дудзіч. Гэта дзякуючы яе энергіі і настойлівасці стварылася спрыяльная атмасфера для пабудовы школы.

— Яе яшчэ столькі ў зямлі, як на версе, — гавораць пра моцную індывідуальнасць Веры Дудзіч.

— Мы палічылі, што дзяцей пакуль хопіць на дзесяць гадоў, — кажуць настаўнікі. — А праз дзесяць гадоў усё зменіцца. Ужо цяпер некаторыя выхадцы з вёсак наракаюць на гарадское жыццё.

— З Ласінкі бліжэй даязджаць на працу ў „Пронар” ці „Рольмак” як у Гайнаўку, — аргументуюць яны.

Ды і сама вёска змянілася ў сэнсе цывілізацыйных перамен. У хатах вада, газ, каляровыя тэлевізары, на панадворках часта сустрэнеце заходнія машыны.

— Будзем рабіць усё, каб не знішчыў нас час, — кажуць настаўнікі з Ласінкі.

Дарэчы, і яны вылучаюцца сярод нашых педагогаў. У настаўніцкім пакоі ўсе гавораць па-беларуску. Яны маюць надзею, што іх ідэю падтрымаюць не толькі ўсе беларускія арганізацыі але і грамадства.

**Ганна КАНДРАЦЮК**



*Ласінскія „Лісічкі” заўсёды заваёўваюць першае месца.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Чалавек і конь

У вёсцы Падаляны Белавежскай гміны жыве селянін Мікалай Хілецкі. Нарадзіўся ён у 1904 годзе.

— Сам часам забываюся, што мне ўжо ажно 93 гады! Не жарты гэта, — столькі ўсяго перажыта, — дзядзька Мікалай задумваецца маўкліва.

— Калі вы перасталі ездзіць на ровары? — пытаю.

— От, яшчэ два гады таму ездзіў па Белавежы. Цяпер ужо не сядаю, неяк убок цягне, баюся, каб не ўпасці.

Удавец ён, шмат гадоў жыве адзін. У вёсцы жывуць яго два сыны — адзін сямейны, а другі халасты. Ён усё ж сам гаспадарыць. Крыху дапамагае дачка, што жыве ў Гайнаўцы. Але ў яе свае клопаты, кажа. Ды не толькі ў хаце сам у большасці спраўляецца, яшчэ крыху і ў полі працуе. Садзіць бульбу на свае патрэбы, крыху гародніны і сее авёс для каня. З канём ён не можа расстацца.

— Вось трактара пазбыўся без жалю, — кажа дзядуля, — а конь — жывое стварэнне, як сябра, добры друг. Калі няма да каго адазвацца, падыду да каня, загавару да яго і ён мяне разумее, а то і адазвецца па-свойму.

Усё жыццё пражыў ён у сваёй вёсцы з 6-гадовым перапынкам на бежанства. Былі на Украіне. У ягоных бацькоў, Андрэя і Хвядоры Хілецкіх, было пяць сыноў. Бацька і двух братоў загінулі ў бежанстве. Дадому вярнулася маці і трох сыноў: Міхась, Павел і ён, наймалодшы — Мікалай. Падзялілі бацькоўскую гаспадарку, а ён з жонкаю атрымаў яшчэ крыху зямлі і так гаспадарылі кожны на сваім. З дзяцінства быў звязаны з працай у полі і любіў яе. Любіў таксама коней. Бывала, што і па два трымаў, хаця гаспадарка невялікая, усяго 4,5 га. Але, была ў яго і другая прафесія — вазак. Ад 1922 да 1980 г. вазіў клёцы і дровы з пушчы.



— Як падумаю, што каб увесь той лес, што я вывалак, зляжыць на адну кучу, была б мусіць страшэнна вялікая гара! — разважае падалянскі мафусаіл. — Падумаць ано, вазіў амаль 60 гадоў. А вось пенсіі за гэта не дастаў. Чамусь прызначылі некальнім асобам такія пенсіі, а мяне ж менш за мяне вазілі, малодшыя. Але, відаць, ніколі не было справядлівасці. Хто хітрэйшы той дабіўся, а я не ведаў да каго і з чым падацца і нічога не дастаў. Маю пенсію за здадзеную зямлю. Ужо ад 1978 года я пенсіянер. На жаль, усё сілы меншае і з кожным годам менш поля абрабляю. Уся мая жывёла — гэта мой сябра конь, курыца і сабака. У маладых няма ўжо такое прывязанасці да зямлі. Я гляджу на сваіх дзяцей і ўнукаў, але гэта ўжо нейкія іншыя людзі. Разумею гэты прагрэс — ён патрэбны, механізацыя дае палёгку сялянам, на маю думку сялянская праца стала яшчэ больш прыемнай і трэба, каб да яе гарнуліся маладыя. Але, здаецца мне, што падалянскае поле ў недалёкай будучыні парасце лесам.

**Алена АНІШЭЎСКАЯ**
*Фота аўтара*

# Мы — не кантрабандысты!

Яшчэ нядаўна чаромхаўскія мытнікі мелі поўныя рукі работы ў цягніку Брэст — Беласток. Амаль кожны дзень выносілі яны мяшкамі канфіскаваную кантрабанду — дзесяткі літраў розных відаў спіртных напіткаў.

Паліцыя блакіравала ўсе дарогі, якія вялі з чыгуначнай станцыі ў наваколныя вёскі. Правяралі кожнага сустрэтага чалавека, які падаваўся з багажом (чытай „Лавіць кантрабандыстаў” — „Ніва” № 17 ад 27 красавіка г.г.).

Зараз усё сціхла. Няма паліцыі на дарогах. Мытнікі праводзяць кантроль своечасова, не выносяць ужо кантрабанды з поезда. Цягнік змяніў свой маршрут (з 1 чэрвеня 1997 г. па новым раскладзе руху курсіруе толькі з Чаромхі ў Брэст) і пустуюць вагоны. Усё адмянілася, прыйшло ў норму. 22 мая г.г., у дзень святога Міколы, надумаў я паехаць за мяжу. Прыхапіў пашпарт і некалькі „зялёных” у кішэню ды падаўся на чыгуначную станцыю.

Цягнік ужо стаяў. Як на такі час (заставалася каля дваццаці мінут да ад'езду), у вагоне не было многа пасажыраў. Усяго тры-чатыры дзесяткі. Калі адлічыць „рускіх”, нашых заставалася крыху больш чым палова.

Прайшоўшы пагранічны кантроль на „праездзе” Голя, пасля гадзіннага чакання, каля трэцяй пасля абеду (па мясцоваму часу) спыніліся мы на станцыі Высока-Літоўск.

З поезда выйшла некалькі палякаў. Заглянуў я ў прадуктовую краму побач вакзала. Пісулька на дзвярах аб'яўляла, што „магазин не работает до 17 часов. Приём товара”.

Сеў я ў свой ранейшы вагон і паехаў далей у Брэст.

Падарожжа хутка прайшло ў вясёлай кампаніі. Гадзіну пазней мы выходзілі ўжо на перон Брэста-Цэнтральнага.

Заманулася мне раптам купіць добры каньячок. Разам са сваім сябруком, таксама пенсіянерам, накіраваліся мы ў „Бэлю” (крама на станцыі, дзе тавар прадаецца за валюту). Перад дзвярыма магазіна выстраілася даўгаватая чарга. Ніхто аднак не думаў адкрываць акенца.

Нехта пачаў грукаць у дзверы. Па нейкай хвіліне прадаўшчыца аб'явіла, што на беластоцкі поезд „нет разрешения” весці продаж. Калі дапыталі яе людзі, хто даў такі загад, адказала: „На этот поезд нет воинского режима”.

Такім чынам мяне сустрэла другая няўдача. Праўда, мне прыяцелі аформілі ўсе задуманыя справункі, аднак, прыкра мне крыху стала, што так нятвла прымаюць жыхароў Беласточчыны сябры з Брэста.

Не мая, мабыць, справа высвятляць прычыны такой дыскрымінацыі беластоцкіх турыстаў, але ўсё-такі хацелася б ведаць, хто за тым стаіць.

А мо наш паважаны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку нешта скажа ў гэтай справе? Я быў бы асабіста шчыра ўдзячны яму за высвятленне справы. Хачу прытым адзначыць, што з майго пункту гледжання, няма ніякай прычыны, каб адзіны наш цягнік з Беласточчыны ставіць пад ганебны слуп грамадскага асуджэння як разбойніцкі або кантрабандысцкі. Мы на такое не заслужылі!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Пехатою цераз граніцу

**Мікалай МУРАЎКА — 73-гадовы жыхар вёскі Крывятычы — у час II сусветнай вайны трапіў у Чырвоную Армію і ў баях за Гданьск атрымаў цяжкія раненні. Пасля лячэння на тэрыторыі Савецкага Саюза не мог нармальна вярнуцца на бацькаўшчыну, у Польшчу.**

Калі ў 1941 г. прыйшлі немцы, моладзь сталі вывозіць на прымусовыя работы ў Прусію. Я папаў у Іаганесбург (сёння Піш) і працаваў там на гаспадарцы ў баўэра Леапольда Канстанты. За працу не плацілі нам нічога, толькі часам немец даваў грошы на цыгарэты. У гэтага гаспадара працавалі таксама палонныя — трох італьянцаў, француз і браты Янэк і Стэфан з Познані, якія адмовіліся служыць у нямецкім войску. Працавалі яны разам з прымусовымі рабочымі, але нанач адводзілі іх у лагер. Я вазіў малако на пункт скупкі, здаваў свіней, вадзіў коней на агляд. Баўэр гаварыў па-польску і па-расейску. Пры цары купляў ён коней на Беласточчыне і адпраўляў іх далей, у Нямеччыну.



У сорак другім накіравалі мяне на будову шашы з Беластока ў Граева, а ў 1944 г. вывезлі капаць акопы. Разам з намі быў і наш 71-гадовы баўэр, які з палкай пільнаваў рабочых. Прабывалі мы там да 19 верасня 1944 г., пакуль не прыйшлі саветы.

Вызваленне спасцігла нас каля Каўнаса. Саветы адразу адправілі нас на зборны пункт. Там навабранцаў памылі, абстрыглі, далі абмундзіраванне і пачалі вучыць ваеннаму рамяству. На прысягу прыехаў сам маршал Ракасоўскі. 17 снежня адправілі нас на фронт. Бралі мы Кольна, ішлі цераз Астралэнку і Торунь. У Торуні быў я паранены ў абедзьве нагі асколкамі гранаты. Адпачываў я з перавязанымі нагамі два дні, а на трэці трэба было даганяць свой атрад, які ішоў на поўнач.

За Гданьск змагаліся мы шэсць дзён. У мяне быў ручны кулямёт, чатыры магазіны і дзве тысячы патронаў. Усё гэта важыла 48 кг. Мой памочнік таксама меў чатыры поўныя магазіны. Немцы ўзводзілі барыкады. За адзін дом бліся мы цэлы дзень, пакуль немцам скончыліся патроны. Пасля вызвалення горада я апынуўся ў групе з шасці вартаўнікоў, якая пільнавала замініраваны немцамі элеватар са збожжам. На моры стаялі два караблі і адтуль выплывалі шлюпкі з салдатамі, якія хацелі ўзарваць элеватар. Аднак мы іх не падпускалі да берага. Тады з караблёў пачалі ў нас страляць з гарматы. Падчас абстрэлу мяне моцна раніла ў спіну. Забралі мяне ў шпіталь у Дзвінску ў Латвіі. За дзевяць месяцаў тройчы мяне аперыравалі, а раны не хацелі гаіцца.

Прыйшоў загад эвакуіраваць шпіталь на ўсход, на японскі фронт. Мяне адвезлі ў бальніцу ў Кіраве, дзе прайшоў я чарговую аперацыю. Стан майго здароўя не дазваляў ісці на „стреловую службу" і прызначылі мяне да „командировки" — ездзіць у Казань, Свярдлоўск і іншыя гарады з рознымі даручэннямі.

11 снежня 1945 г. адпусцілі мяне дадому. На пропуску пазначана было, што адпраўляюся ў Беласток. На вакзале касірша стала крычаць, што „в Польшу не даём билетов". Я быў без дакументаў, забралі ў мяне нават чырвонаармейскую кніжку, а без пропуска і білета падарожнічаць тады было проста немагчыма. Вырашыў я неяк перахітрыць касіршу. Вярнуўся я да згаданай касы і стаў пераконваць жанчыну, што яна памыляецца, бо Беласток знаходзіцца не ў Польшчы, але ў Расеі і што я атрымоўваю лісты адсюль. Жанчына доўга ўглядалася ў карту СССР і ... выпісала мне білет.

На пероне напароўся я на энкавэдзістаў. Праверыўшы пропуск і білет, сталі папракаць: „Что, не нравится тебе Россия?", а ў канцы загадалі шукаць сабе сям'ю ў Савецкім Саюзе і адаслалі назад. Пахадзіў я трохі каля станцыі, потым вярнуўся і дамовіўся з адным машыністам, што перавязе ён мяне на лакаматыве ў Ваўкавыск. Адсюль я думаў перайсці граніцу пехатою, але добрыя людзі перасцераглі, што пагранічнікі могуць мяне застрэліць. У Ваўкавыску сустрэў я галодных жанчын з маіх ваколіц. У мяне былі харчовыя талоны і я падзяліўся з імі ежай. Потым дабраўся я да Бераставіцы, дзе сустрэў польскіх афіцэраў, якія вярталіся ад сем'яў з Вільні. Хацелі яны ўзяць мяне з сабою, але адмовіліся, калі аказалася, што ў мяне няма адпаведных дакументаў. У адчаі некалькі разоў ішоў я проста на граніцу, але мяне лавілі і адвозілі на машыне на пагранзаставу. Мне хацелася дабрацца дадому, у Польшчу, але тут гэтага не разумелі.

Урэшце трапіўся мне людскі чалавек — звычайны лейтэнант, якому хацелася курыць, а ў мяне былі папяросы. Даў я яму 200 штук цыгарэт, але той узяў толькі палову ды выпісаў адпаведны пропуск і перавёў мяне цераз службовы пераход на граніцу. Савецка-польскую мяжу перайшоў я пехатою тыдзень пасля выезду з Кірава. Дабраўся я неяк у Беласток, але цягнік у Бельск-Падляшскі ўжо адышоў. Прыйшлося чакаць наступнага поезда цэлыя суткі галодным, бо тут на рускія талоны нельга было нічога дастаць.

На другі дзень падставілі чатыры таварныя вагоны і адзін пасажырскі для афіцэраў. Мне пашанцавала папасці ў вагон з афіцэрамі. З Бельска ў Крывятычы ішоў я ноччу пехатою. Калі дайшоў да роднай хаты, сям'я ўжо спала.

На працягу двух тыдняў трэба было абавязкова явіцца ў РКУ (ваенкамат). Там паглядзелі на мае раненні і адпусцілі дамоў.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Меншасці пад аховай

25 чэрвеня Інстытут публічных спраў (Instytut Spraw Publicznych) арганізаваў канферэнцыю „Нацыянальныя меншасці ў Польшчы — практыка пасля 1989 года". Дакладчыкамі былі перш за ўсё былыя супрацоўнікі Бюро па справах нацыянальных меншасцей пры Міністэрстве культуры і мастацтва. Запрошаныя прадстаўнікі ад меншасцей маглі выказаць свае меркаванні наконт рэчаіснасці ці выказванняў дакладчыкаў. Канцэпцыя канферэнцыі — добрая і магла б атрымацца цікавая дыскусія ды канфрантацыя поглядаў былых польскіх урäднікаў, якія займаліся нацыянальнымі меншасцямі і прадстаўнікоў гэтых жа меншасцей. Аднак дакладчыкі аказаліся слабымі правакатарамі да дыскусіі. Перш за ўсё гаварылі яны тое, што пачулі ў кантактах з дзеячамі, прачыталі ў прэсе, якая выдаецца беларусамі, украінцамі, немцамі, літоўцамі, славакамі. Раней працуючы ў адміністрацыі былі найчасцей адвакатамі нацыянальных меншасцей. Таму большасць дакладчыкаў магла б парушаць і правакаваць да дыскусіі нейкіх „сапраўдных палякаў", але іх якраз не запрасілі на канферэнцыю.

Павел Казанэцкі, які расказваў пра сітуацыю беларусаў у Польшчы пасля 1989 г., вядомы нам як ураднік, які змагаўся за беларускія інтарэсы, калі працаваў яшчэ ў Міністэрстве культуры і мастацтва. Сёння дапамагае ён развіваць лакальную прэсу ў Рэспубліцы Беларусь. Прадстаўляючы паасобныя арганізацыі Казанэцкі спасылаўся на статуты, выказванні лідэраў і іншыя дакументы прапагандысцкага характару, якія распаўсюджваюцца ў нашым асяроддзі, гаварыў таксама пра рэчаіснасць, якая ў сапраўднасці не існуе. Маем, напрыклад, арганізацыі, якія налічваюць 7 тыс. членаў, часопісы, якія разыходзяцца трохтысячным тыражом, а прытым усе сярод нас змагаюцца за дэмакратыю і свабоду слова. Усё выглядае нават прыгожа, але няшмат гэта мае супольнага з рэчаіснасцю. Аказваецца, аднак, што міфы, якія пастаянна паўтараюць нашы знакамітыя дзеячы, з часам ператвараюцца ў гістарычныя факты.

Так больш-менш выглядае і сітуацыя іншых меншасцей. Для ўкраінцаў, — гаварыла Багуміла Бэрдыхоўская, — праблемай з'яўляецца вобраз іхняй нацыянальнасці ў вачах палякаў. Нягледзячы на радыкальную змену прапаганды ў адносінах да ўкраінцаў, для большасці палякаў з'яўляюцца яны забойцамі, якія мардавалі палякаў на Валыні, у Бяшчадах і іншых кутках шырокага польска-ўкраінскага памежжа. Помнікі, якія ўкраінскія дзеячы ставяць сваім жаўнерам загінуўшым у 1919-1946 гадах, палякі ўспрымаюць як правакацыю.

Вельмі падобная сітуацыя з немцамі. Пра іх расказвала Данута Бэрлíньска, якая раней была ўпаўнаважаным апольскага ваяводы па справах нямецкай меншасці. Цяпер атмасфера на Шлёнску мяняецца, — гаварыла дакладчыца, — але вельмі важным фактарам з'яўляюцца тут сродкі, якія накіроўваюцца туды з Нямеччыны. Нямецкімі інвестыцыямі ў галіне аховы здароўя, асветы, пабудовы дарог карыстаюцца таксама палякі, а самаўрады, у якіх пераважаюць апольскія немцы, з'яўляюцца найлепшым прыкладам паспяховага вырашэння міжнацыянальных канфліктаў.

Выглядае на тое, што найбольшыя праблемы выступаюць на польска-славацкім памежжы. Славакі хацелі б пачуць сваю мову ў касцёлах, школе. Фармальных перашкод няма, але, на практыцы, гмінныя ўлады ці мясцовае польскае асяроддзе робяць шмат чаго, каб славакам не было нада добра, — гаварыў Славамір Лазінскі.

Кожная такая канферэнцыя, якая адбываецца ў Варшаве мае адну супольную прыкмету: на пачатку з'яўляюцца паслы, сенатары, іншыя знакамітасці і прабываюць да часу, калі дазволяць ім выказацца. Пасля некалькімінутнага, недарэчнага найчасцей, маналога — выключна каб адзначыць сваю прысутнасць — уцякаюць яны ў свае кабінеты. Традыцыя і гэтым разам была захаваная ў найлепшым стылі. Самае смешнае аднак было тое, што рабілі гэта паслы, якія ў Сейме займаюцца нацыянальнымі меншасцямі.

**Яўген Міранoвіч**

# У справе царкоўнай маёмасці

27 чэрвеня прайшло ў Сейме галасаванне ў справе змены зместу 49 артыкула *Ustawy o stosunku Państwa do Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego* ад 1938 года. Артыкул 49 не дае права на ўласнасць на 23 храмы, якія ў сапраўднасці знаходзяцца ва ўладанні праваслаўных і якіх цяпер дамагаюцца грэка-каталікі. Пасол Уніі працы Артур Смулка прапанаваў змяніць гэты артыкул так, каб гарантаваў ён Праваслаўнай царкве права на ўласнасць тых храмаў, якія знаходзяцца ў яе ўладанні і былі дзесяткамі гадоў рамантаваныя на кошт вернікаў. Большасць гэтых цэркваў знаходзіцца ў Кросненскім, Новасанчаўскім і Пярэмышльскім ваяводствах, але ахвяраванні на іх рамонты і ўтрыманне збіраліся таксама і ад беластоцкіх вернікаў.

У галасаванні прыняло ўдзел 357 паслоў. За змену закону выказалася 40 дэпутатаў польскага Сейма, супраць было 285, устрымалася 32. „За" поўнасцю галасаваў толькі клуб Уніі працы, 8 паслоў з СЛД, 2 з ПСЛ і 1 з Уніі вольнасці. Прыгнятаючая большасць паслоў СЛД, у тым ліку і Станіслаў Малішэўскі ды Мечыслаў Пецка, якія ўвайшлі ў Сейм дзякуючы галасам праваслаўных з Беласточчыны, аддадзеным на Уладзімежа Цімашэвіча, галасавалі „супраць". Гэтых знакамітых дэпутатаў заўсёды вельмі сардэчна вітала публіка на бэгэкатоўскіх фэстах, фестывалях і іншых святкаваннях, як сваіх прадстаўнікоў у палітычных сферах. На фестывалях царкоўнай музыкі таксама сядзелі яны ў першых радах і рэкламаваліся як прыхільнікі нашай духоўнасці. Але калі трэба было вырашаць пра царкоўную маёмасць, паводзілі сябе згодна з інтарэсамі Каталіцкага касцёла.

**(рэд.)**

# Злачынцы і ахвяры

Пасля чарговага забойства бандай люмпенаў маладога чалавека нанава паднялася дыскусія ці вярнуць смяротнае пакаранне для віноўнікаў найгоршых злачынстваў. Набліжаюцца выбары і палітыкі раптам ухапіліся за тэму, якая ў сапраўднасці бударажыць грамадства. Пачуцці небяспекі і бездапаможнасці пачынаюць ужо быць паўсюдным. У такіх момантах грамадства заўсёды шукае аховы ў моцнай дзяржаве і гатовае падтрымаць людзей, якія абяцаюць радыкальнымі метадамі навесці парадак і вярнуць пачуццё бяспекі. Таму некаторыя палітыкі мяняюць сёння свае погляды наконт велічыні кар для злачынцаў і дамагаюцца, так як і большасць грамадства, павышэння рэпрэсіўнасці з боку апарату правасуддзя. Усё гэта, аднак, не перасякае межаў рыторыкі, а на практыцы не будзь ніводнай сілы, якая магла б адмяніць сітуацыю ў галіне бяспекі звычайных грамадзян.

Ужо ад самае раніцы, нават паругадовыя дзеткі, могуць па некалькіх каналах тэлебачання глядзець фільмы для маладых садыстаў, у якіх ніхто не гаворыць, затое ўсе крычаць, стогнуць, камандуюць. Чалавечыя і касмічныя пачвары спаборнічаюць ва ўсялякіх зверствах. Пра фільмы, якія ідуць вечарам, а асабліва па тэлеканале „Polsat", не варта нават успамінаць. Нянавісць і жорсткасць на тэлевізійным экране сталі ўжо неадлучным элементам амаль кожнай праграмы. У наш час, калі тэлебачанне стала галоўным сродкам масавай інфармацыі і прапагандавання ўзораў паводзін, такім зместам праграм узгадоўвае яно немалую арду злачынцаў. Крывавы фільм прыцягвае гледачоў, а іх колькасць у сваю чаргу прыцягвае большы лік рэкламадаўцаў. А рэклама — гэта важная крыніца фінансавання тэлебачання. І так круг замыкаецца. Голых жанчын, якія таксама маглі б прыцягнуць публіку, цяпер паказваць нельга, таму што быццам бы пагражае гэта хрысціянскім вартасцям. Зверства і лужыны крыві на экране такой, відаць, пагрозы для „вартасцей" не прадстаўляюць.

Да злачынства заахвочвае таксама турэмная сістэма. Калі ўжо нават карумпаваныя судовыя структуры пашлюць нейкага забойцу за краты, аказваецца, што мае ён большыя правы, чым спакойны грамадзянін. Турэмшчык не мусіць працаваць, але гарантуецца яму меню параўнальнае да таго, якое атрымлівае салдат-дэсантнік. Апрача таго люмпену на кошт грамадства гарантуюцца медыцынскія паслугі, доступ да бібліятэкі, тэлебачання. Калі не паб'е турэмных функцыянераў, час ад часу атрымлівае пропуск на свабоду. Забойцы-псіхапаты часта выкарыстоўваюць гэтых пару дзён свабоды на тое, каб знайсці сабе чарговую ахвяру. Законы ствараюць умовы, каб пачвара ў чалавечым кшталце магла самарэалізавацца коштам жыцця нармальнага чалавека. Парадокс гэтай сітуацыі заключаецца ў тым, што пачвара мае поўную гарантыю захавання свайго жыцця нягледзячы на тое, колькі людзей адправіць яна на той свет. Ягоная ахвяра не мае ніякіх правоў, проста перастае існаваць.

Смяротнае пакаранне гэта кара негуманная, перш за ўсё з увагі на людзей, якія вымушаны падпісвацца пад такім прыгаворам. Нармальнаму чалавеку цяжка спалучыць пачуццё справядлівасці і маральныя дылемы, якія ўзнікаюць у такіх крайніх сітуацыях. Але чаму злачынцы, якія свядома адабралі камусьці жыццё, не маглі б дачакацца канца сваіх дзён у ізаляцыі ад людзей, як драпежная звярына. Чаму быт знявоненых за забойствы, разбоі, гвалты не можа быць горшы, чым людзей, якія працуюць на ўтрыманне іх кватарунку, харчаванне, медыцынскую ды юрыдычную апеку. Чаму судовы прыгавор да 25 гадоў зняволення на практыцы зводзіцца толькі да 8-10 гадоў турмы. Свядомасць, што турма абазначае нешта прыкрае, паўстрымала б не аднаго злачынцу. Сёння, як паказвае практыка, з'яўляецца яна выключна крыніцай дэмаралізацыі. Люмпен, які трапіць туды на 2-3 гады, ведае ўжо, што нічога прыкрага яго там не спаткае, калі другі раз прыйдзецца яму нейкі час там пабываць.

**(рэд.)**

# Альбом аб белавежскай жамчужыне

Праўду кажучы, мне ўжо надаела паўтараць з году ў год у прэсавых інфармацыях, што турысты наракаюць на адсутнасць у продажы альбома аб Белавежскай пушчы. І, вось, у бягучым годзе тое ж сцвярджэнне стала неактуальным. Альбом нарэшце паявіўся!

Аўтарам альбома з'яўляецца Ян Валенцік, які ў польскім тэлебачанні працуе сцэнарыстам, рэжысёрам і апаратарам прыродазнаўчых фільмаў. Супольна з жонкай Бажэнай рэалізаваў ён дагэтуль 15 кароткіх фільмавых замалёвак і 37 дакументальных фільмаў аб прыродзе Польшчы. Ён таксама ахвотна фатаграфуе. Згаданы альбом з'яўляецца яго першай кніжкай. Называецца таксама як прыродазнаўчы тэлесерыял, над якім працаваў ён з жонкай у белавежскіх нетрах у 1993—95 гадах — „Пульс першабытнай пушчы", з тым, што ў падзагалоўку дабаўлена яшчэ: „Белавежскі нацыянальны парк".

Ян Валенцік падчас кіназдымкаў не расставаўся з фотаапаратам. У альбом увайшло ўсяго 446 каляровых здымкаў, якія дасканала аддаюць клімат і жыццё першабытнага лесу. Аўтар ва ўступе да кніжкі паясняе: „Я ад пачатку не хацеў, каб альбом меў характар „гербарыя", значыць лічылкі з назвамі раслін, грыбоў і жывёл, якія жывуць у Пушчы. Мэтай для мяне было прад'явіць гэтую жамчужыну еўрапейскіх нізінных лясоў як аўтаномны арганізм у разуменні жывога стварэння, складзенага з мільярдаў асобін, якія жывуць у незвычайна заблытанай супольнасці, з іх нястомным цыклам узрастання, смерці, знікнення і адраджэння".

У альбоме паасобныя раздзелы носяць такія самыя загалоўкі, як і ў тэлесерыяле. Надпісы пад здымкамі хутчэй іх папаўняюць чым паясняюць. Пераглядаючы і прачытваючы альбом, чытач можа ўлавіць увесь сэнс функцыяніравання натуральнага лесу. На заканчэнне кніжкі падаецца даведка аб Белавежскай пушчы пяра д-ра інж. Чэслава Аколава, дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку, заадно і мерытарычнага кансультанта фільма і альбома.

Ян Валенцік завяршае сваю кніжку вось такім заклікам: „На нашых вачах прападае, гіне знявечаная славянская Белавежская пушча (...). За хвіліну будзе запозна на паратунак! Разважны адказ на пытанне „што далей?" ёсць адзін: уся Пушча, незалежна ад таго, што ў 1944 годзе перарэзалі яе граніцай, мусіць астацца Нацыянальным паркам і то Паркам са статутам Трансгранічнага біясфернага запаведніка...".

Чаму? А таму, што „Белавежская пушча з'яўляецца сапраўды апошнім натуральным нізінным лесам (...). Яна ж апора захаванню генетычных фондаў раслін, грыбоў і жывёл. Магчыма, што ў будучыні дзякуючы ёй будзе можна прабаваць узнавіць знішчаную еўрапейскую прыроду. Дзеля такой мэты яна з'яўляецца вялікай спадчынай усёй Еўропы, спадчынай таго самага рангу, што помнікі старажытнасці Грэцыі і Рыма. Гэта прагняздо нашых супольных продкаў. Гэта маё карэнне, гэта таксама Тваё карэнне...".

Альбом „Пульс першабытнай пушчы", выдадзены выдавецтвам „Спорт і турызм — Муза СА", мае ўсё-такі адну загану. У ім няма тлумачэнняў тэкстаў на замежныя мовы. Гэта рэзка абмяжоўвае круг яго пакупнікоў. А можна было б надрукаваць хаця б невялікую ўкладку на іншых мовах!

Што ж, ёсць як ёсць! Наогул добра, што такі альбом у рэшце рэшт паявіўся. З вуснаў знаёмых мне фатографаў я неаднойчы пачуў вось такую ацэнку: „Гэта найлепшы альбом аб Белавежскай пушчы, які дагэтуль быў выдадзены!" Я цалкам з гэтым згаджаюся.

**Пётр Байко**

PS. Чытачам, якія захацелі б купіць згаданы альбом, падказваю, што найтанней (78 зл.) прадаецца ён у Прыродазнаўчым музеі ў Белавежы.

# Каму служыць закон РП?

Апошнім часам вельмі многа гаворыцца і пішацца аб польскім законе ў сувязі са шматлікімі злачынствамі сярод моладзі і не толькі, ды бездапаможнасці паліцыі.

Я не буду гэтага „жаваць", бо наш народ аглядае тэлебачанне і чытае нешта на гэтую жудасную тэму. Але зацікаўлю чытачоў „Нівы" найнавейшымі падзеямі са свайго панадворка. Ветліва зазначаю, што не паўтару таго, аб чым камусьці калісьці гаварыў і раз напісаў у „Ніву" з нагоды 50 гадавіны першага дыплома ў вайсковай кар'еры. Прытым звярніце ўвагу на паставу паліцыі, якая кропка ў кропку падобная да былой міліцыі.

1. Пару гадоў таму пабраў я ў ПКО 3 млн. злотых і замест несці ў жмені дамоў, палажыў іх у партаманет, а той — у кішэню нагавіц. Праехаў адзін прыпынак, бо згануў, што жонка прасіла зрабіць пакупкі на рыначку па вул. Юравецкай і кінуць пісьмо ў паштовую скрынку — па вул. Варшаўскай. Выходзячы з аўтобуса, сунуў я руку ў кішэню па хустачку, бо спацеў. Спацеў яшчэ больш, калі ў кішэні не было ні хустачкі, ні партманета, у якім дадаткова ляжаў ключык ад пісьмовай скрынкі. Пайшоў я на І камісарыят (але пасля некалькіх гадзін) упэўніцца, ці ніхто туды не падкінуў партманета з ключыкам. Там даведаўся, што ў кішэнях трэба насіць лёзы, а не грошы. Падзякаваў я за параду і падаўся дамоў.

2. У мінулым годзе а гадзіне 14 жонка выйшла купіць хлеба, бульбы і г.д. На вуліцы ля магазіна неспадзявана нейкі бамбіза заатакаваў жонку і вырваў ёй з-пад пахі сумку з такой сілай, што ёй на руцэ (яна закручвала пасак за руку, бо гэта здарылася ўжо другі раз) астаўся толькі той пасак. Прыбегла дамоў з плачам, што яе абрабавалі. Я хутка патэлефанаваў на 997. Пасля гадзіны прыехала 2 паліцыянтаў, узялі ў самаход ледзь жывую кабету і сталі ездзіць па пасёлку. Я выйшаў і гавару: „Так, так, панове, ездзьце даўжэй, злодзей зараз да вас выйдзе". Тады яны, убачыўшы маю іронію, забралі мяне і жонку ў камісарыят. Там жонка, плачучы, акрэсліла больш-менш ягоны выгляд. Адзін з іх адразу назваў прозвішча К. Лісоўская. Калі яго затрымалі, той адразу прызнаўся да злачынства і сказаў, што грошы прапіў (было там 180 зл. новых, дакументы, ключы і ўсё, што носяць пры сабе жанчыны). Калі пакліказі нас, каб пахваліцца, як зграбна працуюць, я запрапанаваў, каб паліцыянт і я пайшлі да ягоных бацькоў за зваротам грошай. Паліцыянт выраўчыў вочы і сказаў: „Co pan! My nie możemy iść z panem, bo gdyby on napisał na nas skargę, to byśmy się musieli gęsto tłumaczyć".

— To po co ja łożę na was podatek?

— Ja też płacę. — адказаў прапаршчык.

3. Жыву цераз сцяну з суседам, які дагэтуль жыў без прапіскі ў сваёй маці і сястры. Спярша „выканчыў" ён сястру, пасля маці, а нас мучыць начнымі скандаламі ўжо 21 год. Цяпер яго тут прапісалі і ён стаў яшчэ большым панам (многа пра гэта гавораць) чым быў. Кожную ноч адбываюцца тут п'янкі і праклёны ды бойкі. Ягоная маці і сястра выклікалі былі паліцыю дзесяткі разоў, але толькі ў экстрэмальных сітуацыях. Я не выклікаў ніколі. Нядаўна ўчастковы, згодна зрэшты з новым планам, наведаў і яго. Ён думаў, што гэта хтосьці з суседзяў яго наслаў. Упіўся і да поўначы ўсіх нас на ўвесь корпус лаяў і абражаў. Між іншым і „здагадаўся", што гэта мая жонка, бо крычаў: „To na pewno ta ruska kurwa!" Мы цярпелі, але не рэагавалі. Тады ён пачаў біць кулаком у сцяну (была гадзіна другая пасля поўначы). Жонка выйшла на плашчадку і пагрукаўшы ў дзверы, сказала, каб урэшце замаўчаў. Той з другім (мо яны педзікі?) выскачыў і кінуўся да яе з рознымі славамі. Я паклікаў паліцыю. Ахоўнікі правапарадку штосьці там у кватэры гаварылі, а ён верашчаў. Калі паліцэйскія выйшлі з кватэры, то і ён выйшаў за імі, грозячы, што заб'е гэтую к..., паказваючы на пабялеўшую жонку, стаяўшую са мною на плашчадцы, бо сторажы парадку выклікалі нас, каб параіць, што можам падаць на яго ў калегію. Ён надалей нас абражаў, а яны: „Oj, panie Jurku". І паехалі. А мы з „панам Юркам" далей жывем і я толькі лякарствы прымаю. Колькі я іх ужо выпіў і каўкнуў, чорт яго ведае.

Вось каго бароніць польскі закон. Калі яшчэ жылі яго маці і сястра, не раз яны хадзілі пабітыя ў пракуратуру. Дарма. Давай, я пайшоў па іх просьбе. Нейкая пані пракурор запытала мяне, у якой справе. Я пачаў гаварыць, а яна:

— Stało się coś?!

— Na razie burdy, ale chcemy, aby prokuratura zainteresowała się losem bitych kobiet.

— Jak coś się stanie, to wtedy pan przyjdzie.

Здарылася многае, але я ўжо гэтым не цікавіўся.

**Васіль Петручук**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Гданьскія замалёўкі

***(пачатак у 24, 25 і 26 нумарах)***

Сёння мы паехалі ў Аліву, горад, дзе ў 1627 годзе была марская бітва паміж шведамі і палякамі. У Аліве мы наведалі галерэю сучаснага мастацтва. Там былі вельмі цікавыя карціны і разьба ў камені Горна-Паплаўскага. Будучы ў Аліве нельга мінуць кафедру. Мы мелі нагоду паслухаць нават канцэрт на славутых арганах.

Не меншым атракцыёнам быў маршрут па аліўскім лесе. Дарога паказалася цяжкай. Было там многа горак і вузкіх, небяспечных сцяжынак. Пасля абеду мы агленулі Нацыянальны музей. Там можна пабачыць выстаўку з нагоды тысячагоддзя Гданьска. Загаловак выстаўкі — „Залатыя вароты". У музеі заварожвае карціна „Страшны суд" Мелінга.

Цікава было сустрэцца з украінцамі. Мы пабывалі на ўроку іх роднай мовы. Заняткі праходзілі ў клубе. Зараз у Гданьску 42 вучняў пачатковых школ вывучае добраахвотна ўкраінскую мову. Многія дзеткі пабываюць на ўроках разам з бацькамі. Заняткі адбываюцца раз у тыдзень. У час нашай сустрэчы ўкраінцы рыхтавалі вечарыну на Дзень маці. Яны праспявалі нам свае песні. Іх мова ёсць вельмі падобная да нашай, найбольш да дыялекта. Мы таксама праспявалі ім беларускія песні і паказалася, што песня „Бабка Ёўка" спяваецца таксама і па-ўкраінску. Адно толькі здзівіла, што дзеці не вельмі ахвотна вывучалі сваю мову. Выглядала на тое, што многіх прымушаюць бацькі.



*Над морам.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Вечарам мы сустрэліся з перакладчыцай і журналісткай Радыё Гданьск Аннай Сабэцкай. Спадарыня Сабэцкая закаханая ў творчасць Янкі Брыля і Сакрата Яновіча. Яна падрыхтавала таксама радыёперадачу пра нашы „Сустрэчы". Шкада, што заўтра ад'язджаем і не пачуем гэтую радыёперадачу.

**24.05.97**

У апошні дзень паехалі мы над мора. Незабыўна ішлося марскім пляжам. Там мы шукалі янтару і ракавінак. А пасля гэтага шпацыру наведалі мы яшчэ Археалагічны музей і Мар'яцкі касцёл.

Вечарам мы сустрэліся з тутэйшымі беларусамі. Спадарыня Анна Іванюк, Лена Глагоўская, спадары Мацей Канапацкі і Міхась Куптэль расказвалі нам пра сваю жыццёвую дарогу, якая завяла іх у Гданьск. Усе суразмоўцы гаварылі нам, што найлепш жыць на Бацькаўшчыне і што лепш яе не пакідаць. Сустрэча з гданьскімі беларусамі многаму нас навучыла. Добра што не ўсе эмігранты забываюць сваё роднае. Інакш мы не правялі б такога незабыўнага тыдня на Памор'і.

За гэта ім вялікае ДЗЯКУЙ!

**Паводле дзённікаў**
**Басі Казімерук,**
**Міхася Сцепанюка,**
**Анджэлы Быкавай,**
**Інгі Алітойць**

## Камар у балеце

Што то дзеецца на свеце?
Адкрываецца сезон
у вялікім у балеце!
І ляціць да столі звон!

Зачыняйце шчыльна дзверы,
моцна дзьме з усіх бакоў:
нам не трэба на прэм'еры
безбілетных скразнякоў!

Загучаў аркестр са звонам,
ім кіруе дырыжор,
падымаецца заслона —
і з'яўляецца танцор!

Ах, якая лёгкасць рухаў,
ах, які ён віртуоз!
Замірае сэрца ў мухаў,
і расчулены да слёз

прэзідэнт — Вусаты Жужа,
ён галоўны між усіх!
„Шчасце — мець такога мужа!"
прамаўляюць дамы ўслых.

То ўзляціць ён, то падскочыць,
то станцуе на крыле.
І якія толькі схоча,
вырабляе „па", „але!"

„Ах, якія ў яго ножкі,
а палёт, а паварот, —
з захапленнем шэпчуць мошкі, —
вытанчоны нос і рот!"

Гучна плешчуць яму восы
і заможныя жукі,
авадзень — стары, бязносы,
дыпламаты-павукі.

Гонар разам быць на здымку,
фота робяць светлякі.
У антрактах у абдымку
з камаром народ які!

І спяшаюць да артыста —
хто ляціць, а хто паўзе,
дыпламаты і міністры,
доўга топчуцца ў чарзе...

Прагучаў акорд фіналу —
і танцор, і гледачы
пакідаюць з жалем залу,
разыходзяцца ў карчы.

Цішыня лягла ў партэры,
і лунаюць толькі сны.
Да наступнае прэм'еры!
Да наступнае вясны!

**Ала Канапелька**

## Польска-беларуская крыжаванка № 28

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Bardzo smaczny<br>Pomoc naukowa | | Strach<br>Puch | | Morze<br>Przekleństwo | | Młodzieniec | | Tkacz<br>Irena | |
| | | | | | | | | | |
| Suchar<br>Oddech | | | | | | Ara | | | |
| | | | Tłuczek | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 24:** парадак, дарога, дым, гад, рад, дары, дом, маг, кат.

**Магічная крыжаванка:** муза, урад, зала, Адам.

Узнагароды — кніжку М. Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы" — выйгралі: **Давід ГАЛОЎСКІ** ды **Ежы ТАМЧУК** з Орлі і **Марыля ТАПАЛЕЎСКАЯ** з Кленік.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы".

## Мова жывёл

***(купальская казка)***

Было гэта якраз у купальскую ноч. Пайшоў адзін чалавек папараць-кветку шукаць. Бадзяўся ён па лесе, блудзіў, аж спаць яму захацелася. Пасплю сабе, падумаў ён, адпачну хвілінку і далей буду цуднай папараці шукаць. Лёг спаць, заснуў. Спіць. Аж чуе — дрэвы крычаць:

— Уцякай адсюль! Уцякай, бо цябе заб'е!

Сарваўся чалавек, слухае — няма нідзе нікога. Адвярнуўся, адышоў з таго месца, аж бачыць, што гром у дрэва ляснуў. Ды і ў тое якраз, пад якім ён заснуў.

„Ого, — думае чалавек, — трэба хутчэй дахаты збірацца. Бура на ўсю ноч зацягнула".

На панадворку сустрэў ён сабаку.

— Як ты прыйшоў? Чаму цябе не забіла? — пытаецца сабака.

— Ну вось, — кажа чалавек, — быццам у сне, мне падказала.

Зараз чалавек пабачыў, што і мову пеўня разумее.

— Ты толькі нікому не гавары, што разумееш мову жывёл, — падказаў яму певень. — Бо памрэш!

— Добра, — згадзіўся чалавек і пайшоў спаць. — Нікому не скажу ні слова.

Не паспеў чалавек заснуць, як чуе лямант сабакі.

— Гаспадар, выходзь на двор, зладзеі прыйшлі, забяруць усё тваё дабро!

Выйшаў чалавек, прагнаў зладзеяў і спаць вярнуўся. Раніцай малаціць пайшоў. Прыходзіць сабака.

— Ой, — кажа, — я цябе ўсю ноч будзіў, бараніў, а гаспадыня мне есці не дае. Адной вады і да таго бруднай мне вынесла.

Пайшоў чалавек жонку пытаць:

— Чаму ты сабаку не корміш?

— Ой, каб яго воўк аблупіў, я ж яму столькі вынесла.

— Ну што ты яму вынесла? Ты ж толькі бруднай вады яму наліла.

— Адкуль ты ведаеш? — вырачыла вочы жонка. Да таго яна настаяла „адкуль ты ведаеш?"

— Ведаеш, — пачаў чалавек, — я ...ведаю. Я ўсё ведаю. Але сказаць адкуль, не магу. Не скажу, бо памру. Калі хочаш, каб я табе сказаў, дык на смерць мяне рыхтуй: памый кашулю, нагавіцы і дай вады памыцца. Я лягу на лаву і тады табе скажу, бо ўсё адно я жыць не буду.

Жонка прыгатавіла сарочку, адзела мужа, як на смерць прыбрала. А ў хаце пад печчу куры жылі. Певень як пабачыў што тварыцца, як не выскачыць на хату, як не кукарэкне:

— Дурны гаспадар! У мяне дзесяць жонак і я ўсе на свой лад трымаю, а ў цябе адна і ты яе баішся? Што ты, паміраць захацеў? Не трэба не ў сваю пару ў зямлю лезці. Лепш скажы сваёй жонцы, што ты сабе пажартаваў з яе. Так дзеля весялосці тое сказаў.

І праўда, у хаце тры дні ўсе смяяліся. Хутка чалавек на свой лад жонку перавёў. Людзі адно дзівавaліся, што з такога ціхага гаспадара жартаўнік на ўсю вёску зрабіўся.

**Зорка**

# „Кобра” і псіхі

Пастаноўка: Джордж Касматас.
Галоўны герой: Сільвестар Сталоўн.

Сцэнарый: Сільвестар Сталоўн.
І зноў хуткае дзеянне. Праваахоўнік паспяшае за людзьмі, якія любой цаной стараюцца рабіць усё супраць закону.

Джордж Касматас паставіў карціну пад загалоўкам „Кобра”. „Кобра” — гэта мянушка галоўнага героя фільма, які працуе ў „Аддзяленні нябожчыкаў”.

У краму ўваходзіць чалавек, не выглядае на нейкага псіха (выглядае нармальна). Дастае пісталет. Пагражае ўсім. Адважнейшых, што хочуць уцякаць, забівае. Паліцэйскія не маюць адвагі ўвайсці ў краму і дапамагчы людзям. Шэф паліцыі заве да сябе „Кобру”. Той уваходзіць у стэрарызаваную сітуацыю як у свой дом. Бярэ з паліцы піва, п’е спакойна, і як для забавы страляе ў псіха. Той падае мёртвы на зямлю.

„Кобру” лічаць найлепшым паліцэйскім у горадзе. Яго спробы змагання са злачынцамі неканвенцыянальныя, але эфектыўныя. Герой нават кажа, што яго заданне, гэта прыбіранне смецця — псіхаў, тых, што выступаюць супраць закону. Дадае яшчэ, што ён ловіць псіхаў, а суд іх выпускае і таму ён рашае забіваць іх у кожны спрыяльны момант. У горадзе „Кобры” дзейнічае хеўра, якая забівае выпадковых людзей. „Кобра” ўваходзіць у акцыю. Тут з’яўляецца і жанчына, сведка аднаго забойства хеўры. Цяпер жанчына ў небяспецы. „Кобра” атрымлівае заданне сцерагчы яе. Прыходзіцца ім хавацца, але ўсюды іх знаходзяць. Аб кожным руху „Кобры” злачынцаў інфармуе паліцыянт. „Кобра” не жартуе з псіхамі. Ён сам адзін з гранатамі, кулямётам і пісталетам справіцца ў кожнай сітуацыі.

Як гэта бывае ў такіх фільмах, дабро заўсёды перамагае. Гэтая карціна маларэальная, аднак, фільм рэкамендую ўсім, хто любіць у фільме хуткае дзеянне. У фільме многа крыві і нахабства.

**Андрэй Таранта,**
**вучань кл. VII „е”,**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



*Удзельнікі IX Сустрэч „Зоркі”. Першы злева: лаўрэат конкурсу на рэцэнзію Андрэй Таранта.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Першая беларуская палітычная партыя

Пры канцы XIX стагоддзя выраішальную ролю ў жыцці кожнага грамадства пачыналі адыгрываць палітычныя партыі. Групы людзей, якія мелі супольныя гаспадарчыя, палітычныя ці сацыяльныя інтарэсы, стваралі арганізацыю і прапанавалі грамадству сваю праграму жыцця ў найбліжэйшай будучыні. Так перш за ўсё было ў заходняй Еўропе, дзе ўлада фармавалася шляхам парламенцкіх выбараў. Ва ўсходняй Еўропе, у тым ліку і ў Расійскай імперыі, улада мела феадальны характар і пра амаль усё ў краіне вырашаў цар і ягоныя ўраднікі. Не было магчымасцей змяніць палітыку шляхам выбараў, таму тут часта ўзнікалі нелегальныя арганізацыі пераважна рэвалюцыйнага характару.

Маладая беларуская інтэлігенцыя, якая вучылася найчасцей у расейскіх універсітэтах, бачыла галечу свайго люду, яго духоўную і матэрыяльную беднасць. Ні польскі пан, ні расейскі ўраднік не былі зацікаўлены адменай сітуацыі беларускага селяніна. Беларусам аднак перш за ўсё патрэбна была свая школа, каб навучыцца іх пісаць і чытаць. Гэтыя веды адкрывалі дарогу ў шырэйшы свет. Таму першыя беларускія арганізацыі, якія ствараліся на пачатку XX стагоддзя, у першым пункце свае праграмы ставілі неабходнасць пашырэння асветы сярод сялянства.

Восенню 1902 года група студэнтаў беларусаў Пецярбургскага універсітэта, якіх ўзначальвалі Вацлаў Іваноўскі і Іван Луцкевіч заснавалі Беларускую рэвалюцыйную партыю. Была гэта ў сапраўднасці студэнцкая арганізацыя. Яе стваральнікі дамагаліся аўтаноміі для Беларусі ў рамках Расейскай імперыі, а таксама права беларусаў на вырашэнне свайго лёсу. У тым часе такая праграма была сапраўды рэвалюцыйнай. На пачатку 1903 года адбыўся з’езд партыі, на якім памянялі назву арганізацыі на Беларускую рэвалюцыйную грамаду. Неўзабаве стала яна найбольш вядомай арганізацыяй сярод маладых беларусаў. У яе рады ўступалі студэнцкія і вучнёўскія гурткі Мінска, Вільні, Пецярбурга. Незадоўга партыя назвалася Беларускай сацыялістычнай грамадой, а маладыя інтэлігенты замест аўтаноміі пачалі ставіць пастулат незалежнасці Беларусі. Кожны адукаваны чалавек, які толькі захацеў дапамагчы сваёй радзіме, сваіму народу, вельмі хутка арыентаваўся, што ў лепшую будучыню шлях вядзе толькі праз незалежнасць.

# Вогнішча

Ніводзін турысцкі паход ці рэйд не абыдзецца без вогнішча. Гэта і кухня, і клуб пад адкрытым небам. Аднак без дастатковага вопыту запаліць яго не так проста, асабліва ў дажджлівае надвор’е. Бывалым турыстам добра вядомы вогнішчы „таёжнае”, „зорнае”, але найчасцей за ўсё выкарыстоўваецца „пірамідка”.

Калі ў месцы, дзе мы спыніліся, растуць елкі, асаблівых праблем не будзе. Пад полагам разгалістых ялін нават у лівень застаюцца сухімі ніжнія галіны — багатая крыніца так званага ламку, які ўспыхвае ад адной запалкі. Горку ламку абложым пірамідкай таўсцейшымі сухімі палачкамі з той жа галіны. Пасля ўжо можна падкладваць і іншае ламачча.

Калі ламку няма, трэба ўзяць любую сухую палачку і настругаць так, каб стружка на ёй заставалася. З такіх палачак робім невялікі шалашык, кладзем унутр бяросту і падпальваем. У моцную непагадзь можна паставіць пад галіны бляшанку з-пад кансерваў, пакласці туды прамочаную тлушчам паперу і запаліць. Вільготныя дровы будуць гарэць, калі іх пасыпаць жменяй буйной солі.

Збіраючыся ў паход, не забудзем памачыць звязку запалак у расплаўлены воск або парафін. Тады яны лёгка запаляцца нават пад дажджом. Дарэчы, калі ўсталявалася трывалае дажджлівае надвор’е, трэба паклапаціцца пра распалку і на будучыя дні: галінкі і трэскі, высушаныя ля вогнішча, абліць расплаўленым парафінам.

**(лук)**

# Рэцэнзенты ацэнены

Удзельнікі IX Сустрэч „Зоркі”, якія прайшлі ў днях 2—4 мая г.г. у Нарве, вучыліся пісаць рэцэнзію. Дакладчыкі запрошаныя на Сустрэчы „Зоркі” — Ян Максімюк і Яўген Мірановіч — расказалі маладым журналістам як рэцэнзаваць фільм і кнігу. Навука, як і выпадала б, закончылася свайго роду экзаменам — конкурсам на найлепшую рэцэнзію.

На конкурс надышло шэсць прац, пяць з якіх датычыла фільма, а адна — кнігі. Камісія, у якую ўвайшлі названыя ўжо тут дакладчыкі IX Сустрэч „Зоркі”, а таксама і аўтар гэтай інфармацыі, ацэньвала рэцэнзіі так, як гэта настаўнікі робяць у школах — ставіўшы ад аднаго да шасці ачкоў. Вынікі працы камісіі наступныя:

1. Андрэй Таранта — 16 ачкоў;
2. Міхась Сцепанюк — 16;
3. Жанэта Роля — 15;
4. Аня Сідарук — 14;
5. Аня Садоўская (за фільм) — 12;
6. Аня Садоўская (за кнігу) — 11.

**Андрэй Таранта і Міхась Сцепанюк** сабралі аднолькавую колькасць ачкоў — першае месца камісія прызнала А. Таранту за выключную кампактнасць думак у пераказе зместу фільма. Міхась Сцепанюк атрымлівае спецыяльную ўзнагароду Яна Максімюка — слоўнік.

Усе працы наогул былі вытрыманы ў жанры, якога датычыў конкурс, г.зн. рэцэнзіі. Аўтары стараліся коратка перадаць характарыстыку фільма, а затым ацэньвалі разнастайныя яго *каштоўнасці*. Асабіста цешыць мяне, што маладыя рэцэнзенты вельмі крытычна паставіліся да факта прысутнасці ў фільме вялікай порцыі насілля.

**Аляксандр Максімюк**

# Дубінскія дзеткі

Даўно я Табе, „Зорка”, не пісаў. А вось, прыйшла нагода і хачу некалькі слоў напісаць пра дзетак Дубінскай школы, якія выступаюць у школьным тэатрыку. Я меў нагоду паглядзець іх спектакль „Віфліемская ноч”. Зачаравалі яны мяне і ўсю нашу Гмінную ўправу. Было гэта 23 мая г.г. Наша пані войт Вольга Рыгаровіч зрабіла нам сюрпрыз, а менавіта завезла нас у ГОК у Дубінах. Там мы паглядзелі выступленне школьнага тэатрыка, які вядзе Надзея Гаган. Дзеткі выступілі як сапраўдныя артысты. Як жа прыгожа гучыць родная мова дзіцячых галаскоў! Як жаўрукі аб’вяшчаюць аб цяпле, так яны паведамляюць, што беларуская мова ў іх школе жыве. Мы былі заваражаны. Здавалася, што перанесліся ў тыя часы, аб якіх успамінае Евангелле. І ўбачылі як Іосіф з Марыяй шукалі месца пераначаваць, як людзі іх прынялі, дзе Маці Божая знайшла месца нарадзіць нашага Збавіцеля. Прыгожа ўдалося спадарыні Гаган узнавіць гэтую сцэнку. А Мірак Койла прыгожа ўдэкараваў уваход у начлежны дом і самыя яслі, у якія Марыя паклала Ісуса Хрыста. Дзякуем спадарыні дырэктар Валкавыцкай за гэта, што нам дазволіла паглядзець гэтую сцэнку. Пані войт перадала дзеткам-акцёрам цёплыя пажаданні і мяшок цукеркаў, а апякунцы тэатрыка — прыгожыя кветкі. Войт яшчэ абяцала не забываць дзетак і ў будучыні дапамагчы ім грашыма. Шкада было б, калі б такі прыгожы тэатральны гурток меў загінуць. Мы забавязаліся прыпамінаць войту, каб яна не забыла. Няхай дзейнасць школьных беларускіх гурткоў у нашым наваколлі заўсёды існуе. Гэта наша культура, наша будучыня. Калі загіне культура, загіне наша мова, прападзе і народ. А гэта будзе вялікі грэх і сорам перад другімі нацыямі.

**Грыша Мароз**

**...Чыстакрынічны песенны фальклор патрапяць сёння, на жаль, выконваць людзі вышэй сямідзесяці.**

# Што чуваць у народным меласе?

**З вядомым беластоцкім музыказнаўцам СЦЯПАНАМ КОПАМ, адказным у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры за супрацоўніцтва з беларускімі народнымі калектывамі, гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

***— У днях 13-18 чэрвеня ў Нараўцы адбыўся міжнародны сімпозіум „Народная музыка сярэдняўсходняй Еўропы — Беласточчына — каляндарныя песні". Была гэта ўжо дваццаць шостая ваяводская прэзентацыя пад лозунгам: „У пошуках і пераказванні фальклору". Якія Вашы ўражанні ад гэтага мерапрыемства, у арганізацыі якога Вы прынялі непасрэдны ўдзел?***

— Мэтай сімпозіума была ахова самых каштоўных традыцый аўтэнтычнага спеву (асаблівая ўвага была прысвечана каляндарным песням), а таксама папулярызацыя музычнага, слоўнага і танцавальнага фальклору нашага рэгіёна, заахвочванне да пошукаў занікаючай народнай творчасці. Зраніцы адбываліся этнамузыкалагічныя семінары, а вечарам — выступленні. Шкада, што з нашага асяроддзя прыехалі паказаць свае песні толькі спевакі з Ляўкова, Крыўца, Трасцянкі, Новага Вострава, Астраўка, Гарадка, Падазеран, Кавалёў, Гнілішча Вялікага. Не прыехалі спевакі з Арэшкава, Чаромхі-вёскі, Волькі Тэрахоўскай, Дабрывады, Дашоў, Краснага Сяла, Дубяжына, Тыневіч, Ласінкі, Маліннікаў, Збуча, Кнарыдаў, Малога Вострава, Веек, Стараўлян, якія мелі быць.

***— Шкада! У гэтых жа вёсках здаўна людзі дбаюць пра свае традыцыі.***

— Але выступленні народных спевакоў у першыя два дні датычыліся толькі каляндарных песень, такіх, як канапелькі, рагулькі ці агулькі, зязюлі, юр'еўскія, сенакосныя, святаянскія ці купальныя, жніўныя, піліпаўскія і іншыя. Можа людзям забракла канцэпцыі, а мо былі яны занятыя на гаспадарцы. У кожным разе на трэці дзень, у нядзелю, калі прадстаўляліся іншыя народныя песні і інструментальная музыка, з'явіліся ўсе прадбачаныя калектывы і сольныя выканаўцы. Палякі, беларусы і ўкраінцы.

***— Як Вы лічыце, якую карысць прынёс гэты сімпозіум?***

— Дзякуючы яму дайшло да грунтоўнага пазнання фальклору, які існуе на Беластоцкай зямлі. Тут сутыкнуліся таксама два дыялекты беларускай мовы: паўночны і паўднёвы (паляшуцкі). Чаму паявілася белая пляма ў культуры паўночных гмін? Бо там народныя песні спяваюць толькі на сваёй мове, а гэта нікога не цікавіла, а перш за ўсё гмінных дзеячаў культуры. А вось дырэктар Дома культуры ў Шудзялаве асабіста прывезла жанчын з Астраўка і Новага Вострава ў Нараўку. Упершыню з гміны Кузніца-Беластоцкая (з Кавалёў) прыехалі бацька з сынам, якія ігралі і спявалі ды яшчэ прывезлі жанчыну з Гнілішча Вялікага, якая спявала ў Нараўцы.

***— Перад сімпозіумам і пасля яго была яшчэ нейкая экспедыцыя?***

— Так, гэту экспедыцыю, тое, што мы ездзілі па вёсках, я лічу найбольш каштоўным элементам сімпозіума. Мы з праф. Ігарам Маціеўскім з Пецярбурга і яго жонкай канд. навук Галінай Таўлай, якая 20 гадоў працавала ў Менску, выбраліся на поўнач нашага ваяводства. Гэта была ўжо наша трэцяя экспедыцыя. Паехалі туды, дзе яшчэ не былі. Павёз я іх па выбоінах, па разбітых дарогах, — верачы, што ў кожнай вёсцы людзі скажуць, хто спявае, а мы запішам гэта для навукі. Трэба ж было разведаць, што яшчэ засталося на поўначы Беласточчыны, паказаць вучоным-музыколагам яе музычную культуру. Былі ў Бярвісе — гм. Сідра, у Лазове, Няросьне, Грэбянях — гм. Дуброва, Хільмонах, Сынкоўцах — гм. Новы Двор, Кавалях (гм. Кузніца), у Янове, Кнышыне, Есяноўцы, Карыціне, Крыпне, Кузніцы, Саколцы, Дуброве, Новым Двары.

***— Засталіся там яшчэ беларусы?***

— Усё беларускамоўнае, дзе не закрунешся. Кажуць, што гэта простая мова. Але большасць (асабліва старыя) адразу адказвае па-беларуску. Хочуць вяртацца да старога, дык перакладаюць беларускія тэксты на польскую мову (напрыклад, у Янаве).

***— Ці наведвалі вы са сваёй экспедыцыяй ваколіцы Нараўкі?***

— Вядома. На сон мы мелі па пару гадзін у суткі. Былі ў Ляўкове, Масеве, Ахрымах, Альхоўцы, Сушчым Барку, Семяноўцы, Забрадах. У Капітаншчыне мы запісалі спеў 96-гадовага мужчыны, а ў Скупаве — 92-гадовай жанчыны, якая гэтыя песні вельмі перажывае, даслоўна расказвае, як тыповая народная баярка. Чыстакрынічны песенны фальклор патрапяць сёння, на жаль, выконваць людзі вышэй сямідзесяці...

***— Найбольш істотнае на семінарах?***

— Вялася гутарка на тэму праграмы „Ku tradycji, ku przyszłości", якая яшчэ апрацоўваецца. Гэта была ідэя Яна Бэрнада, дырэктара Фонду „Музыка крэсаў". Датычыцца яна дзяцей дашкольнага ўзросту, якіх будуць вучыць спяваць песні на мясцовай гаворцы, выконваць уласнымі рукамі простыя інструменты, што выконвалі пастушкі: дудкі і дудачкі, трубкі і трубы, розныя свісцёлкі, многія іншыя інструменты, а таксама вышываць, рабіць карункі, пісанкі і г.д.

Думка гэта выйшла ад украінцаў і яны яе рэалізуюць. У Бельску ва ўкраінскім прадшколлі н-р 9 ад верасня будуць вучыць дзяцей вышываць, іграць на народных інструментах, рабіць карункі. Людзі дзеля гэтага ўжо знойдзены.

У нас жа (у Гарадку, напрыклад) гэту ідэю ўспрынялі са страхам. Трэба будзе параіцца з бацькамі, невядома, што яны скажуць, — жахнулася дырэкцыя гарадоцкага прадшколля.

А будучыня народнай творчасці будзе загарантавана, калі пачаць вучыць ёй ад маленства. Ёсць надзея, што падставы гэтай праграмы, якая абапіраецца на традыцыі і народнай творчасці, ад 1 верасня г.г. будуць уведзены ў прадшколлях Ляўкова і Есяноўкі.

***— Дзякую за размову.***

# Цімахі без Цімашэвіча

Заблудзіў я аднаго пагоднага веснавога дня ў Цімахі. Папасці туды не так лёгка, бо вёска прысела на ўскраіне Лядскай пушчы, недалёка ад ракі Нарвы, але затое далёка ад усялякіх дарог. Пабачыў я на лавачцы пажылога мужчыну і прысеў да яго. Выявілася, што Юзафу Паскробку ўжо 97 гадоў:

— Я найстарэйшы не толькі ў вёсцы, але і ў цэлай парафіі!

Распытаў я крыху яго пра мінулае, бо хто як хто, але ён напэўна многае за такі час пабачыў. Пачаў ад бежанства.

— Нашай вёскі ў Расію не вывозілі. Быў спакой, пакуль не прыйшлі бальшавікі, а разам з імі з'явіўся тыф. І я захварэў. Не было тады, што сёння, ні лекаў, ні дахтароў. Але пашанцавала мне выжыць. Пры санацыі працаваў на зямлі, быў у нас трацяк — на сённяшнюю меру тры з паловай гектара. Таксама і ў лесе працаваў, рабілі *зрэмбы* ў *Гарымове*. Ганяў таксама плыты. У першую вайну, калі я яшчэ замалады на гэта быў, то ганялі дрэва аж у Прусію, у Торунь. А калі я ганяў, то ўжо толькі ў Тыкацін. Збівалі *тафлі* па 8—10 штук, каб тры метры ўпоперак, а ўздоўж — як выпадала. Штогоду сплаўляў дрэва, бывала, што і па два разы, калі ў сенакос была вялікая вада. Голаду ў нас не было, есці хапала: нават мяса жыдам прадавалі; бралі яны толькі быдлячае, бо свінога не елі. У войску я не служыў, толькі ў 39-м змабілізавалі мяне з фурманкай у Пружаны і пагналі пад Брэст. А там немцы ўсё разбамбілі і я вярнуўся з тае вайны дадому. Калі пасля саветаў прыйшлі немцы, тады нашу вёску вывезлі ў Рыбакі; хацелі нават у Ляўкова, але так засталося. Загадалі за тры дні разабраць будынкі, бо як не, прыгразілі, што спаляць. У Рыбаках трымалі нас два гады; жыў я ў хляве, бо хата на лонках ляжала. Лепшыя дылі пацягаў я ў *затоку*, каб немец не забраў. Маладых немцы вывозілі на работы; мяне ўжо не бралі. А саветы, як наступалі на Варшаву, не бралі нашых у сваю армію, бо мы аказаліся пад польскім *падчыненнем*; саветы толькі ў лес на работу бралі. А пасля вайны ў лесе працаваў: тут; у Прусію на заробкі не ездзіў. Ну і зямлю таксама абрабляў, каб аблогам не ляжала. А цяпер то што — крыху радыё паслухаю. А тэлевізара то і глядзець не хочацца, бо і няма на што: плятуць, бо мусяць нешта плясці. Толькі *дзеннік* гляджу.

Пытаю яшчэ, як змянілася вёска ў апошнім часе.

— Людзей, у параўнанні з колішнім, мо з палова цяпер. У школу толькі двое дзяцей ходзіць. Разабралі мо ўжо з пяць хатаў; сядзібы гміна прадае. Вось ужо дзве прадалі, на адной з іх новы ўласнік ужо нешта робіць.

Цікаўлюся яшчэ і вясковай тапаніміяй, бо ж назва вёскі ад нейкага Цімаха. Пытаю спадара Юзафа Паскробку, ці калі ў вёсцы жыў хто-небудзь, чыё прозвішча выводзілася б ад Цімаха, напрыклад Цімашэвіч, або хто іншы.

— Пра Цімашэвіча ў Цімахах нічога мне невядома. Да першай сусветнай вайны жыў тут адзін Цімашук. У першую вайну яго сына прызвалі ў расейскую армію і ён на фронце загінуў. Тыя старыя Цімашукі пазней паўміралі і цяпер тут няма нікога, чыё б прозвішча выводзілася б ад Цімаха. Жывуць яшчэ тут, апрача Паскробкаў, Койлы, Міранчукі, Лэнчыцкія.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Фэст у Сямятычах...

Даволі складанай справай з'яўляецца правядзенне ў сучасных умовах народных фэстаў у беларускім асяроддзі на Беласточчыне, асабліва ў будзённы дзень, калі вясковае насельніцтва занятае ўборкай сена ці трускалак. Найбольш цяжка тады сарганізаваць транспарт мастацкім калектывам.

Ужо ад поўдня 28 чэрвеня г.г. наняты ў гарадскім транспарце аўтобус сабіраў беларускія мастацкія калектывы ў Беластоку, Козліках, Курашаве і Чыжах, каб іх адвезці ў Сямятычы. Планаваны тут беларускі народны фэст адбыўся ў паркавым амфітэатры над маляўнічым вадасховішчам. Блізкасць вады лагодзіла чэрвеньскую спёку. Амфітэатр паступова запаўняўся вернымі беларускай песні слухачамі.

Фэст адкрыў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Канцэртную праграму павяла Валянціна Ласкевіч.

Добры настрой у слухачоў выклікаў дзявочы мастацкі калектыў „Каласкі" з Беластока, які праспяваў некалькі беларускіх лірычных песень. Ала Дубец, кіраўнік гэтага калектыву, на прафесіянальным узроўні выканала пад уласны акампанемент на акардэоне песні „Ах, не журыся сусед" і „Тваe вочы чорныя". У дуэце з маці — Любай Гаўрылюк — слухачы пачулі песню „Не шукай ты мяне".

Жаночы мастацкі калектыў „Рэчанька" з Козлікаў пад кіраўніцтвам Любы Гаўрылюк праспяваў і пратанцаваў з вышыванымі ручнікамі ў руках беларускую песню „Рэчанька", якая паслужыла назовам іх калектыву. Варта прыгадаць, што калектыў выканаў „Частушкі" на словы Віктара Шведа.

Жаночы калектыў „Незабудкі" з Курашава, пад кіраўніцтвам Ніны Грыгарук і акардэаніста Сяргея Аўксенцюка выканаў некалькі беларускіх песень з мясцовага беларускага фальклору.

З поспехам выступілі таксама „Чыжавяне" з Чыжоў пад кіраўніцтвам Міхася Аўхімені з Гародні.

Уласным транспартам даехаў на фэст гурт „Прымакі" з Беластока — Юрка Астапчук і Багдан Місяюк, якія запалэнілі публіку сваімі песнямі ў рытме танцавальнай музыкі. Абслугоўвалі яны ўвечары танцавальную вечарыну для мясцовай моладзі, арганізаваную Сямятыцкім асяродкам культуры.

На заканчэнне Валянціна Ласкевіч падзякавала прысутным за іх удзел у фэсце. Падзякавала таксама старшыні Сямятыцкага аддзела БГКТ Мікалаю Пракапюку, Сямятыцкаму асяродку культуры і гарадской самаўправе за дапамогу ў арганізацыі фэсту.

Да поўначы развозіліся па вёсках і Беластоку беларускія мастацкія калектывы, што выступалі на фэсце ў Сямятычах.

# ...і ў Дуброве-Беластоцкай

У спякотную нядзелю 29 чэрвеня г.г., калі тэмпература надвор'я дасягнула 35 градусаў, адбыўся чарговы беларускі народны фэст у Дуброве-Беластоцкай, арганізаваны ГП БГКТ супольна з Дуброўскім асяродкам культуры, які ўзначальвае Ліля Александровіч. Фэст праходзіў у мясцовым амфітэатры распаложаным у сасновым лесе. Многія слухачы ўцякалі ад гарачыні ў цень навакольных дрэў.

Мерапрыемства адкрыла прадстаўнік асяродка культуры Яніна Крагель. Яна сардэчна прывітала прысутных сцвярджаючы, што фэст адбываецца толькі дзякуючы добраму супрацоўніцтву з кіраўніцтвам ГП БГКТ у Беластоку. Перадала яна голас Валянціне Ласкевіч, якая пажадала прысутным найлепшых уражанняў і павяла канцэрт.

Першым выступіў славуты ўжо хор Гайнаўскага дома культуры, пад кіраўніцтвам Анны Стрыхі з Гародні і пад музычны акампанемент акардэона, басэтлі і скрыпкі.

Чаргова выступілі прыгожыя дзяўчаты з маладзёжнага калектыву „Каласкі" з Беластока пад кіраўніцтвам Алы Дубец, якая сола праспявала песню „Цёмныя вочы" і разам з акампаніятарам-акардэаністам Мікалаем Сідаруком „Каля броду каліна". Слухачы добра ўспрымалі выступленне калектыву „Падлясянкі" з Хільмонаў пад кіраўніцтвам Надзеі Януцік, які выканаў, між іншым, песні „Чырвона каліна" і „Мая ты сястрыца" з мясцовага беларускага фальклору.

Гурт „Прымакі" з Беластока (Юрка Астапчук і Багдан Місяюк) і гурт „Гранд" з Грабянёў (Янка Петушынскі і Пётр Кучынскі) падагрэлі і так неймаверна гарачую атмасферу.

Валянціна Ласкевіч сардэчна падзякавала публіцы за вытрымку, а Дуброўскаму асяродку культуры і старшыні аддзела БГКТ у Дуброве Аркадзю Суліме — за дапамогу ў правядзенні фэсту. **В. Ш.**

# Тэрарыст

Якраз у Варшаве пад машынай нейкага бізнесмена бомба зрабіла бум. Зараз, праўда, яно звычайная справа, але рэха хваляй пайшло.

— Ты пабач! — гаворыць мне мой знаёмы гадзіншчык. — Ці даўней так было, каб чалавек у белы дзень на вуліцу баяўся выйсці?

— Ну, бо і праўда, — гавару яму. — Сам не раз прыязджаў позна ноччу цягніком у Беласток і далёка за поўнач валокся, нават праз парк, у другі канец горада. Праўда, і людзі сустракаліся, але ніхто не чапаў. Хіба, што закурыць або агню папрасілі. Раз нават за гэта і гарэлкай пачаставаць хацелі. Усё неяк распаўзлося.

— Бачыш, за палітыку не забіваюць. Забіваюць за грошы, — кажа мой знаёмы.

І так загаварыліся, што я забыў чаго прыйшоў, а ён — што меў мне даць. Нездарма жыве ў народзе прыказка: „Хто ў галаве не мае, той нагамі розум даганяе". Праскокваючы зайчыкам па дзве-тры ступенькі, хутчэй вобмацкам чым з развагаю, зноў збягаю з чацвёртага паверха, трымаючы на гэты раз у руках прычыну майго візіту ў знаёмага. Паклаў у сумку паміж дакументы ўратаваную ад сметніка надзею маёй ранняй пунктуальнасці ды подбегам па справах.

Ужо чакаючы аўтобуса, каб як найхутчэй даехаць да банка на Рынку Касцюшкі ў Беластоку, я заўважыў, што людзі неяк дзіўна касавурацца, паказваючы адзін другому на мяне вачыма. Раблю від, што мне, моў, не толькі не залежыць на вашых маўклівых размовах, але што мае думкі заняты нечым зусім другім. Стараюся надаць сабе вельмі разумны выгляд, быццам бы рашаў шэкспіраўскае „быць ці не быць", а сам пачаткова маленькімі крочкамі з галавой задуменна апушчанай уніз, прыкідваюся, што шпацырую. Вока так і лыпае час ад часу на чакаючых аўтобуса. Сачу, а сам так і ўхітрываюся шмыгануць незаўважана за прыпыначны дашок. Удалося! Пуста, толькі нейкая пара ў абдымках узіраецца сабе ў вочы. Ну і хай! З пачатку абгледзеў свае боты, ці ў нейкую брыду не ўлез. Чыста! Потым абкінуў вокам вопратку — нічога, нават не парваная. Праехаў рукою па твары і валасах, ці птушка нейкая не ўпрыгожыла — нічога. Ды чорт яго ведае ў чым справа? Калі нешта, дык напэўна спераду. На мяне ж, гледзячы, міргалі.

Сітуацыю закончыў аўтобус, які затармазіў ля прыпынку. Людзей нямнога. Сеў я зараз ля дзвярэй побач нейкага задбанага мужчыны ў пенсіённым узросце і трымаю сумку на каленях. Пачаткова нічога. Аўтобус рушыў. Мой сусед глядзеў у акно. Потым нейк насцярожыўся, быццам бы лавіў вухам нешта далёкае. Зусім як бы быў непрытомны. Пахіліўся дыскрэтна ў мой бок, стараючыся як мага больш прыблізіцца да маёй сумкі. Так пабыў хвілінудзве, схапіўся, глянуў на мяне праніклівым позіркам ды раптоўна ўстаў. Стоячы ля дзвярэй, яшчэ раз глянуў на мяне, але неяк дабразычліва нахіліўся і шэптам спытаў:

— На Кавалерыйскую? Ну і правідлова! Хам'я назбіралася!

І высеў. Тут я зусім нічога не зразумеў. Што за хам'ё! Пры чым Кавалерыйская? Факт, ехаў я „тройкаю", якая папраўдзе і ідзе да самага рынку, але ж мне туды не трэба. Па якую халеру на Кавалерыйскую, калі я ў банк і мне выходзіць у цэнтры горада трэба, менавіта пры бары „Сонейка".

У банку, як у банку — больш аддасі, чым дастанеш. Стаю пры сваім знаёмым акенцы. Паставіў сумку на палічку ля шыбіны і чакаю. Тут людзей нямнога, але і тыя неяк адсоўваюцца ад мяне. Пастаяць некалькі хвілін, глянуць з недаўменнем на мяне і на ўсякі выпадак адыдуць.

— Няйначай у гаўно ўлез, — думаю. — А можа на мордзе нешта брыдкае, ці смярдзіць ад мяне.

Схіляю дыскрэтна галаву на правае плячо і пацягваю носам пад пахаю. Нічога. Пад левай таксама. Ну проста так немагчыма. Прашу прабачэння, што, моў, на хвіліну па справах у другі аддзел банка, што зараз вярнуся, а сам да люстэрка, якое ўкампанаванае ў калону на другой палавіне будынка. Стаю і кручуся, як паненка ў браме, але нічога такога, што кідалася б у вочы, не заўважаю. Ну, чаго гэтыя людзі прычапіліся? Аж жаль за душу скрыгануў. Мацаю па кішэнях, а тут як на зло пашпарта няма. А што без пашпарта аформіш, а яшчэ ў банку?

А можа яно і добра — падумаў сабе і ўзяў на выхад з гэтага пакутнага месца.

І добра зрабіў. Бо каб здарылася тое ў банку, мог бы і сорак восем гадзін тлумачыцца за нішто. А пошта ўсё ж такі, як не глядзі, але рангам ніжэй. Па ахове відаць.

У непадалёкай пошце народу, як у піўной пасля выплаты. Што праўда, там чалавек пятнаццаць — гэта ўжо многа. Цесната. А тут яшчэ канец месяца, аплаты ўсялякія. Каб не тое, што заказныя трэба здаць, дык чорт бы там і заходзіў. Сяджу палавінаю на адзіным крэсле ды запаўняю бланкі. Сумка на ганаровым месцы стаіць. Шмат вартасных дакументаў там, каб кінуць без нагляду. Пішу і зіркаю на яе. Але не толькі я. Іншыя таксама, толькі бокам. І ля мяне як бы прагаліна зрабілася. Што за халера? Можа нехта нейкае паскудства напэцкаў. Адварочваю яе другім бокам. Нічога няма. Чорная, як камінар пасля працы. Але толькі я да яе дакрануўся, а людзі так і пацінуліся пад сцены.

І сталася! Толькі я да замка і прыадкрыў, каб выняць канверты, як раптам не раздасца: бззззз... А людзі як не кінуцца ў дзверы. Нехта крыкнуў:

— Бомба! Тэрарыст!

Паненка за шыбінай, схіліўшыся, прыкідвалася, што нечага шукае. Рэшта стаяла пабялелая пад сценамі. А я сяджу, пачырванелы ды ўзіраюся ў сумку, у якой барабаніць на ўвесь званок мой наладжаны будзільнік.

— Я так і думала, — прастагнала працаўніца, вылазячы з-пад століка. — Бомба не звоніць. Бомба робіць бум!

**Міхаль Пашкоўскі**

# Новыя вершы

## Да М. С.

Жывеш у краіне, дзе буслоў
не ўгледзіш,
казалі — не жывуць там салаўі.
Я ўжо прывітала пару буслоў
і лебедзі па рэчцы белавежскай
паплылі.

Міне яшчэ халодных пару тыдняў,
падскочыць уверх зялёная трава,
пасеянае зерне ў полі ўзыдзе —
мо зноў пачую песню салаўя.

Я разумею сум твой па радзіме,
хоць паўстагоддзя жывеш у чужым
свеце,
там працаваў ты на хлеб штодзённы,
сябры твае там, жонка, дзеці.

Яны другой ужо нацыі
і Беларусь для іх — чужына.
А ў тваім сэрцы ўсё шчыміць успамінам:
бусел на клуні, ноччу салавей і першая
дзяўчына.

**Алена Аніпэўская**
*Вясна 1997 г.*

## Успомніце яшчэ

*Жыхарам Слабодкі прысвячаю*

На гэтай цаліне
вецер мухі гоніць
— а то пякуць крывапіўцы.
На гэтай цаліне
крапіва вырасла ў пояс
і дзіч акружае вакол.

На гэтай цаліне
пастух Павел мог
даволі расказваць
сваім авечкам
аб нядолі.
На гэтай цаліне
асталіся яшчэ кветкі
якіх заграмічнікі
фатаграфавалі
а нам гэта
будучыня.
Гэтую цаліну
людзі патопчуць
так як культуру Беласточчыны
а вось тут
пот і слёзы бацькоў
зааралiся глыбока
ў душу.

**Уладзімір Саўчук**

# Надзейко, не ўмірай!

**... бо ты ў мяне адзіная асталася, — моліць сваю старэнькую сяброўку яшчэ старэйшы дзядуля, Адам Кавальчук з Беластока.**

Пазнаёміліся яны на могільніку. Надзея пахавала якраз свайго мужа-пакутніка. А пан Адам наведваў сваю Стэфку, якая пакоілася на беластоцкім могільніку на Выгодзе ўжо два гады. Адчуваў сябе ўсё блажэй, хоць яшчэ выглядаў добра. Яшчэ крэпкі і дужы, здавалася б, усё горш спраўляўся з усімі справамі. Без догляду жаночай рукі рабіўся ўсё больш недалужны, хаця не хацеў пра гэта думаць.

Спадар Кавальчук калісь быў моцны чалавек. Не хварэў, хоць не шкадаваў здароўя, каб забяспечыць сям'ю. Пагадаваў, павывучваў дзяцей, купіў ім кватэры, збудаваў два дамы, даў на машыны. А апошні дом збудаваў у Беластоку, двухпавярховую вілу — для ўнука якраз яе збіраўся быў яе апісаць, найменшага, каб пры ім і завяршыць сваё багатае і працавітае жыццё.

Унук той ужо жанаты, жыве ў тым шыкоўным доме. А дзедава логава, калі занядужаў, стаіць там у калідорчыку. Каб медсястры бліжэй было да туалета, калі прыйдзе перавярнуць старога і памяняць брудную пасцель.

— Ніколі не падумаў бы, што буду прывязаны да ложка, і гаршкі будуць з-пад мяне выварваць! — плача дзядуля. — І ў сваім стуле буду качацца, пакуль хто-небудзь загляне. Чужы, бо родных зусім не цікаўлю. І смерць не прыходзіць, бо сэрца ў мяне моцнае ды вантробы.

Бо чаму ж кідаць працу і займацца бацькам дачцэ, што ў судзе працуе? А забраць дадому яго не можа, бо ў яе сапраўды месца няма ў блёку. Другая дачка, вось, сама ўжо пенсіянерка, яна ж не кіне дому ў Варшаве і мужа, не паедзе ў Беласток, каб займацца нерухомым бацькам! Ён жа тут мае вілу, на гэтага ўнука яе апісаў, а не на ейнага сына; то няхай ён ім і займаецца!.. А ўнучкава жонка кажа: „On dla mnie obcy człowiek". Ну, не будзем пералічваць сваякоў пана Адама, бо задоўга трэба было б цягацца па судах. Хопіць сказаць, што на нікога з родных разлічваць ён не можа.

Спрабаваў быў пан Адам перад гэтай апошняй бядой стаць на роўную, новую дарогу, каб з кімсьці пад руку прайсці свой перадапошні шлях у дружбе. Не ў самоце. Сустрэў быў раз на могільніку пані Надзею. Вядома, што тут гаварыць пра каханне — калі яно ёсць, то іншае, чым магло быць паўвека раней... Надзея не магла забыць свайго мужа, усё сніліся ёй страшныя сны, калі ўміраў у пакутах, не мела таксама ніякай патрэбы вязацца з кім-небудзь; сама неяк давала сабе рады, хоць усё больш хвароб пачало да яе чапляцца. Горш было з панам Адамам. Мужчына ў гадах, калі траціць блізкую асобу, якая была яго апорай і ў шмат чым выручала ў жыцці, часам у новай сітуацыі ніяк не можа дайсці да сябе. Адчувае сябе і паводзіць так, быццам у першы дзень як нарадзіўся. Простыя штодзённыя справы здаюцца быць яму не пад сілу. Пан Адам пачаў ужо быў апускацца долу, але сустрэча з пані Надзеяй паставіла яго на ногі.

Пан Адам мог разлічваць толькі на сяброўства. Так сказалі абое. Але справу мусіла вырашыць радня, як толькі зведала, што ў дзядулі ёсць „сімпатыя". Ніхто не выказаўся супраць адкрыта, але патрабавалі спачатку аформіць дакументы наконт спадчыны. Так на ўсякі выпадак, бо старыя як дзеці, скажуць, што пабірацца не будуць, а тут раптам патэпаюць у загс... а пасля судзіся з новай дзедавай жонкай ды яе раднёю! А маёмасць праўна належыцца ж **роднай** сям'і! Адна дачка нават прыехала бліжэй знаёміцца з бацькавай сяброўкай, каб дакладна высветліць адносіны. Яна нават намаўляла іх на шлюб, бо тады ўсе абавязкі апякункі ўзяла б жонка, калі „што не дай Божа, бо нам жа няма як займацца татам".

І так яны ездзілі адно да аднаго, сазвоньваліся, сустракаліся. Раіліся, як правесці час, шпацыравалі... Аж раптам здаровага, здавалася б, дзядулю, паваліў інсульт.

— Я ўсё чула, як доктарка з „пагатоўя" верашчала і трасла пана Адама, — кажа суседка Надзеі пані Кацярына. — Хацела яго на ногі ставіць, а гаспадыню лаяла: „Co pani tak nad nim skacze, wcześniej od niego kopyta wyciągnie!" А праз нейкі час ізноў вызвалі „скорую", доктар лямантаваў, чаму так позна яго паклікалі, ратунку хіба не будзе, і паперлі рэанімацыйнай карэткай. Думалі ўсе, што пан Адам памрэ, але якасьці выкараскаўся. Адно толькі што паралізаваны. Пані Надзейка сама ледзьве ходзіць. Прыехала да яе Адамава дачка, кажа: бярыце бацьку да сябе. А Надзейка: „Ці я яго сям'я?! І сілы не маю, і ў маёй кватэры няма як, а ў яго ж ёсць віла. Але мяне ж туды не пусцяць, каб ім апекавалася, бо і яго ляжак паставілі ў сенях!"

Так яно ёсць, уздыхае пані Кацярына: нарабіўся чалавек за ўсё жыццё, пагадаваў дзяцей, а цяпер плача: „Не ўмірай, Надзейко..."

**Міра Лукша**

# Адгалоскі

## Тэлебачанне і выбары

Калі набліжаецца тэрмін выбараў у Сейм, немалая калатуша робіцца вакол перадвыбарчай кампаніі. Галоўным і цэнтральным месцам гэтага з'яўляюцца гэтак званыя сродкі масавай інфармацыі, а перад усім Беластоцкае тэлебачанне. Дзякуючы тэлебачанню можна зусім танна дабрацца ў хату да кожнага выбаршчыка і пераканаць яго, каб свой голас аддаў на каго трэба. А калі адзіным уласнікам дзяржаўнага ці бадай публічнага тэлебачання з'яўляецца грамадства, якое не экуменічна ставіцца да праваслаўных, і наогул да беларусаў, то думаю, што намаганні Беларускага саюза мець сваю аўтаномную рэдакцыю прыгавораны на няўдачу.

Аднак здавацца не трэба, нягледзячы на тое, што саюзнікам дырэктара Беластоцкага тэлебачання з'яўляецца сам спадар Ян Сычэўскі. Не вельмі разумею пазіцыю старшыні БГКТ на спатканні кіраўніцтва Беластоцкага тэлебачання з журналістамі, якое адбылося 12 мая г.г. („Дэбата па-беластоцку" — А. Максімюк — „Ніва" № 21). Спадар Ян Сычэўскі, паводле справаздачы А. Максімюка, гаворыць, што беларуская праблематыка і мова можа здамінаваць перадачы ў тэлебачанні, калі б праўленне тэлебачання ўзяло пад увагу пастулаты і намаганні Беларускага саюза. Клопат Сычэўскага пра польскі этнас у Беластоцкім тэлебачанні будзе зразумелы тады, калі глянем на справу з пункту гледжання барацьбы старшыні БГКТ з Беларускім саюзам. Але, ці гэта абазначае, што спадар Сычэўскі будзе мець большы доступ да перадач у тэлебачанні? Калі так, то шанц увайсці ў Сейм РП спадару Сычэўскаму пабольшваецца. Але ці хтосьці падумаў, якім гэта адбываецца коштам?

Калі пішу, што не вельмі разумею пазіцыю спадара Сычэўскага, то маю на ўвазе тое, што сваё становішча ўяўляе як старшыня БГКТ. Затым трэба спытаць, ці БГКТ адмоўна ставіцца да беларускай рэдакцыі ў Беластоцкім тэлебачанні? I гэтага не разумею, як можа беларуская арганізацыя ставіцца адмоўна да беларускай рэдакцыі?

**Міхась Куптэль**

## У чым справа?

Міхася Куптэля з Гданьска мне нельга акрэсліць інакш чым Прыяцель з вялікай літары, бо ён аказаўся сярод тых нямногіх маіх абаронцаў, калі вось іменна за дзяцінства, якога я не меў, і за беднае юнацтва аблівалі мяне смярдзючымі памыямі ды бессаромна падарвалі аўтарытэт у свеце: зараз ужо ніхто з-за мяжы, акрамя Украіны, мне не піша, бо хто ж напіша „злодзею, бандыту і сталіністу"?

Міхась Куптэль у адгалосцы „Усе наракаюць" („Ніва" н-р 22 ад 1 чэрвеня 1997 г.) між іншым пытае: „Васілю Путручуку немагчыма забыцца пра сваё дзяцінства (...). Але ці аб гэтым трэба пры кожнай нагодзе прыпамінаць?" А я пытаю, што яго так узбударажыла, каб паставіць пад сумненне тэматыку маіх выказванняў і творчасці? Не, такога дзяцінства нельга забыць. Можна толькі прамаўчаць. Але я хачу, каб больш ніводнае дзіця не жыло так, як давялося жыць мне. Паўтараю: без вайны, на васьмі гектарах добрай зямлі і, як-ніяк, пры бацьку. Акрамя таго былі ж у мяне дзядулі і бабуля, цёткі і дзядзькі. Ніхто з іх мяне не бачыў, як чыкіндаю ад гнаянякоў за іхнімі каровамі, ніхто не клапаціўся аб тым, дзе я сплю, і што ем.

Ці Вас, спадар М. Куптэль, выпраўлялі весці коней на начлег, калі Вы прыганялі кароў з пашы і заўтра зноў іх мусіце гнаць з расою? А я быў пастухом круглыя суткі, спаў вярхом на кані, бо ў парцянай рванай сарочачцы і такіх жа нагавічках цяплей было на кані, чым на траве. I гэта не было адзін раз, аб чым не варта было б пісаць, а працягвалася гадамі.

У гэта цяжка паверыць, але я не з касцей і цела чалавечага, а проста з жалеза, ці чагосьці яшчэ мацнейшага, што дазволіла мне пераваліць за семдзесят.

Васіль Быкаў перажыў вайну вельмі трагічную і ў ягонай творчасці пераважае ваенная тэматыка. Але ніхто яму не ставіць закіду, што ён не можа гэтага забыць. Наадварот, ёсць прапановы даць яму Нобелеўскую прэмію. А хто мяне ўзнагародзіць за доўгія гады мучэння? Ніхто, а толькі сёйтой назаве мяне ілгуном, бо аб кімсьці напісаў некарысную праўду.

А ці сп. Міхась Куптэль прыкмеціў, што я, успамінаючы аб сваім трагічным дзяцінстве, паўтараюся? Ці, напрыклад, адна мая ноч з „Малітвы" ёсць яшчэ недзе апісана? Я ў „Пожні" напісаў менш, чым трэба было напісаць. Але і так ледзь не сканаў ад нерваў пішучы, бо вечна стаяў перад вачамі кашмар перажытага, так як і сёння, калі яшчэ раз хочацца высветліць людзям іхнія сумненні ці закіды. Мог бы прамаўчаць, але я не мог аднесціся абыякава да Прыяцеля. Я калісьці, яшчэ за ПНР, напісаў у „Ніве" артыкул „Ці хопіць жыцця?" Аказалася, што не хопіць, каб усім усё высветліць, нават тое, здавалася б, відавочнае.

**Васіль Петручук**

# Чорт і пенсіянерка

**— Сыночак мой дарагі, — скардзілася цётка Ганна, — калі я атрымаю пенсію, апоўначы прыходзіць чорт, адчыняе дзверы, уваходзіць у хату і кажа: „Аддавай грошы, а не, то забяру тваю грэшную душу".**

Цётка Ганна жыла згодна са сваім мужам Сцяпанам. Былі яны прыкладам для сваіх дзетак, а мелі іх двое — дачку Гапку і сына Фёдара. Былі яны ўзорам таксама для ўсіх сваякоў і цэлае вёскі. Дзеткі былі прыгожыя і здаровыя. Сын добра вучыўся, закончыў сярэднюю адукацыю і пачаў працаваць у горадзе. Там атрымаў кватэру, ажаніўся і абзавёўся сям'ёю.

Дачка Гапка, прыгажуня і ветлівая дзяўчына, выйшла замуж у сваю родную вёску. Жылі яны дружна ды багата, шчыра працуючы на сваёй гаспадарцы ды бацькам дапамагаючы. Час няспынна ўцякаў, бацькі старэлі і сталі хварэць. Параіліся яны між сабою і вырашылі гаспадарку перадаць зяцю. Вядома, ён прыкладны гаспадар, а сын жыве ў горадзе. Нядоўга цешыліся старэчы лёгкім жыццём ды шчасцем. Неўзабаве Сцяпан захварэў і адышоў з белага свету. Цётка Ганна асталася сама, але даглядала дзяцей дачкі. Час ад часу з горада прыязджаў сын са сваёй сям'ёй і тады ў хаце цёткі Ганны заўсёды быў чутны гоман унукаў і дзяцей.

Змяніліся ўлады і палітыка. Калі закрылі краму, у вёску сталі ездзіць аўталаўкі. Сын у горадзе апынуўся ў ліку беспрацоўных. Гаспадарам намнога цяжэй стала і цётка Ганна пачала худзець, мала калі што купляла ў краме. Прыехаў з горада сын да сваёй роднай маці за дапамогай, бо і яму вельмі цяжка цяпер жывецца. Убачыўшы худзенькую маці, пачаў распытваць што такое з ёю дзеецца.

Пачала цётка Ганна расказваць сыну сваё гора, хоць ведала, што сын у ейны расказ не паверыць. Ён жа адукаваны, жыве ў горадзе, а там чарцей няма.

— Сыночак мой дарагі, калі я атрымаю пенсію, апоўначы прыходзіць чорт, адчыняе дзверы, уваходзіць у хату і кажа: „Аддавай грошы, а не, то забяру тваю грэшную душу". Вядома, хоць я і старэнькая, але жыць хочацца і я яму аддаю ўсе грошы.

Сын загадаў маці нікому не гаварыць аб гэтым, нават сваёй дачцэ, і паабяцаў прыехаць тады, калі маці атрымае пенсію ды прагнаць чорта.

Прыехаў сын у дзень палучкі і зайшоў у хату так, каб нават суседзі не прыкмецілі. Калі сцямнела, узяў ён валок ды прыхаваўся. Апоўначы пачуліся крокі і ў хату ўвайшоў чорт. Маці пачала класці грошы на стол, а сын у той час ударыў валочкам па чортавай галаве. Той упаў, а калі знялі з яго маску, нячыстым аказалася... Гапка. Вось як „добрая" дачка даглядала сваю старэнькую маці. Цяпер цётка Ганна жыве спакойна і не верыць у чарцей, а злачынная дачка адпачывае ў турме.

**Мікалай Лук'янюк**

# Адкрыты ліст Мікалаю Краўчуку

Паважаны і дарагі сябра. Дайшла да мяне сумная вестка, што вы цяжка хварэеце. Калісь Вашы вершы друкаваліся на старонках „Нівы". Мала было ў нас літаратуры перапоўненай такім патрыятызмам. Некаторыя вершы я вывучыў на памяць і не раз дэкламаваў іх публіцы ў святліцы ў Дубічах-Царкоўных і Палічнай. Верш „Гарэлка" з'яўляецца проста маніфестам, заклікам да нашага беларускага асяроддзя, каб адкінула пануючы сярод нас стыль жыцця, якому спадарожнічае рака гарэлкі.

*Як буду жыці*
*Водкі больш не буду піці.*

Дарагі сябра, не тапіце таленту, яшчэ раз прачытайце радкі свайго верша, які друкаваўся ў „Ніве" пару гадоў таму. Давайце паспрабуем разам выступіць у наступным конкурсе беларускай прозы і паэзіі. Веру, што я і Мікола Лук'янюк будзем за Вамі. Вяртайцеся тады на шлях узбагачэння нашай літаратуры.

Ваш талент патрэбны нашай культуры.

**Мікалай Панфілюк**

# Калі будзем разам?

Ужо прэзідэнт Рэчы Паспалітай Аляксандр Кваснеўскі падаў дату выбараў у Сейм. Пачалася выбарчая кампанія і з нашых грошай будзе яна, відаць, аплачвацца. Цікава, ці не павысяць нам падаткаў, каб аплаціць лідэраў палітычных груповак, якія падбіраюць сабе мяккія крэслы ў вярхушцы.

А нашы беларусы ніяк не могуць аб'яднацца, каб разам пайсці на выбары. БГКТ падпісала дагавор з Саюзам левых дэмакратаў і там сабе ўжо старшыня Янка Сычэўскі знайшоў месца на мяккае крэсла. Беларускі саюз падпісаў дагавор з Уніяй працы і Яўген Вапа з іх спіска будзе балаціравацца ў паслы. Праўду кажучы, спадар Вапа добра абараняе нас, беларусаў. Ён стараўся і стараецца надалей, каб у польскім радыё і тэлебачанні пабольшыць колькасць беларускіх перадач, арганізуе беларускія конкурсы паэзіі і прозы, адным словам, бароніць нашу меншасць. Але мая думка ўсё цягне ў другі бок. Хацелася б, каб усе беларускія арганізацыі аб'ядналіся і стварылі адну моцную арганізацыю, такую, каб мы самастойна маглі выступіць у наступных выбарах.

**Мікалай Лук'янюк**

# Смерць чакала ў туалеце

Раман з сябрамі пасля працы пайшоў у бар. Пілі піва, курылі цыгарэты, размаўлялі аб усім і нічым. У бары людзей было шмат. Усе займаліся тым жа, сёй-той прабаваў нават спяваць. Былі і такія, што мецілі падабраць у п'яных кашалькі. Некаторым нават у гэтай справе пашэнціла — падхмеленыя мужыкі бачылі ўжо толькі куфлі з півам.

Раман напіўся вышэй пупа. Пара было ў туалет. Сказаў сябрам, што вернецца праз хвіліну.

У туалеце сядзелі нейкія жулікі і чакалі лёгкай удачы. Калі Раман толькі зайшоў, накінуліся на яго:

— Давай грошы!

Раман заўпарціўся:

— Я сваіх грошай нікому не аддам!

Адзін з рабаўнікоў схапіў хлопца за шыю, пачаў душыць. Калі ён не даваў знаку жыцця, забралі яму кашалёк, сцягнулі боты і куртку ды выйшлі з бара. Уласнік бара, які сачыў за парадкам, заглянуў у туалет і знайшоў нежывога маладога мужчыну. Хутка паведамілі паліцыю.

Забойцаў знайшлі. Былі імі юнакі ў 18-19-гадовым узросце, якія нідзе не працавалі і не вучыліся.

— Што з таго, што іх палавілі, — плача Раманова маці, — калі гэта яму не верне жыцця! Такі быў добры хлопец...

Бацькі хуліганаў не могуць паверыць, што іхнія сыны маглі для грошай і адзення забіць чалавека. Ім жа ўсяго дома хапала?

**Аўрора**

# Позірк у мінулае

**16 ліпеня**

1773 г. — нар. Іосеф Юнгман, чэшскі мовавед. Паходзіў з беднай рамесніцкай сям'і, адукацыю атрымаў на Пражскім універсітэце і з 1799 г. працаваў гімназічным настаўнікам у Літамерыцах, а з 1815 г. — у Празе. Паколькі ў тадышніх школах, што існавалі на чэшскіх землях, адукацыя адбывалася па-нямецку, І. Юнгман даваў прыватныя ўрокі чэшскай мовы, знаёмячы такім чынам сваіх суродзічаў з роднаю мовай. Ён лічыў, што датуль жыве народ, дакуль жыве яго мова і змагаўся за пашырэнне чэшскай мовы сярод вышэйшых сфер свайго грамадства. Прытрымоўваўся ён тэзіса, што задачай адукаваных людзей з'яўляецца пашыранне сваіх ведаў у народзе і дамагаўся ад іх, каб пісалі і гаварылі пачэшску. Перакладаў ён на чэшскую мову выдатныя творы замежнай літаратуры, кладучы такім чынам падваліны пад сучасную літаратурную чэшскую мову. Стварыў таксама важныя ў гэтым плане творы, найважнейшым з якіх быў чэшска-нямецкі слоўнік, напісаны ў 1834—39 гг. І. Юнгман з 20-х гадоў мінулага стагоддзя стаў на чале адраджэнскага чэшскага руху, гатовячы грунт пад пазнейшы росквіт нацыянальнай навукі і культуры. Памёр 14 лістапада 1847 г.

**17 ліпеня**

1918 г. — у ноч з 16 на 17 ліпеня у Екацэрынбургу быў забіты апошні расейскі цар Мікалай II разам з усёю сям'ёй. Мікалай II, найстарэйшы сын цара Аляксандра III, нарадзіўся 18 мая 1868 г. у Царскім Сяле. У 1894 г. ажаніўся з нямецкай прынцэсай Алікс фон Гесэ-Дармштад, якая прыняла імя Аляксандры, пераходзячы на праваслаўе. У тым жа годзе памёр яго бацька і Мікалай II узышоў на царскі трон. Лічачы сваім даўгом утрыманне царскага абсалютызму, не згаджаўся на ніякія дзяржаўныя рэформы, затое ж часта кіраваўся радамі сваёй, ахопленай містыцызмам, жонкі. Яго інтарэс да пашырэння сваёй улады стаў адной з прычын выбуху вайны з Японіяй у 1904 г., правал якое спарадзіў рэвалюцыю 1905 г. і прымусіў цара адысці ад абсалютызму да канстытуцыйнай манархіі. Мікалай II быў прыхільнікам міжнароднага супрацоўніцтва і, дзякуючы менавіта яго намаганням, была склікана першая гаагская канферэнцыя, якая заснавала Міжнародны трыбунал і склала правілы гуманных паводзін падчас вайны. Намагаўся цар яшчэ ўстанавіць кантроль за тадышняй гонкай узбраенняў, аднак беспаспяхова. Нягледзячы на сяброўскія адносіны Мікалая II з нямецкім імператарам Вільгельмам II, іх дзяржавы апынуліся па розных баках успыхнуўшай у 1914 г. першай сусветнай вайны. Няўдачы расейскай арміі, асабліва калі цар асабіста стаў камандаваць ёю, прывялі да ягонага адрачэння ад трону ў 1917 г. Прышоўшыя пазней да дыктатарскай улады бальшавікі, абмяжоўваючы круг сваіх сапернікаў, расстралялі цара і разам з ім усю ягоную сям'ю.

**(Ш)**

# *Парнасік*

## Доктар у Дубічах-Царкоўных

Такога доктара мы не мелі,
Хаця на ўсе хваробы хварэлі.
Былі ў нас розныя ўрачы:
Добрыя, пасрэдныя і *партачы.*
Я не суддзя іх судзіць —
Трэба ўсіх паважаць і любіць.
Дасканалых людзей мы не знойдзем
Нават калі цэлы свет пройдзем.
Цяпер нас лечыць маладая лекар
Ева Барана;
Яе тапаркоўская і гданьская
*старана.*
Маці яе — з Тапаркоў, аптэкарка,
Працуе сумленна і з *маркай*;
Жыве ў Беластоку, працуе,
Хворых і кволых шануе.
Дачка яе — прыгожая і стройная
Ева
Медыцынскія схільнасці мела;
Ад дзяцінства да сталасці
Ззяе ад яе прамень радасці.
Муж яе, Янак, з Тапаркоў —
мой абход,
Дзе пражывае слаўны род.
Новая лекар ветлівая да хворых,
З усмешкай вітае здаровых,
Гаворыць па-тутэйшаму,
Мовай сэрцу наймілейшай,
Таму, што ў сям'і яе і родзе
Польская не была ў сіле і модзе.
Яна нарадзілася ў Гданьску,
Але вучылася не толькі па-панску.
Да дзядоў прыязджала дапамагаць
у полі
Каб вырвацца з гарадское няволі.
Пасля Медыцынская акадэмія
ў Беластоку,
Навука адказная, і недалёка.
Ева з Янкам жывуць наверсе
кватэры
І ўсім-усім наўсцяж адчынены
дзверы.
Людзі скора палюбілі доктар
новую
І лічаць як сваю родную.
Яна добра лечыць і ў рабоце
разбіраецца
І прэстыж нашай вёскі ўверх
паднімаецца.
Маем і добрага зубнога ўрача,
спецыяліста,
Гасцінны ён, і кланяецца нізка.
Таксама цешымся, што ён у нас
працуе
І свайго цэннага часу не марнуе.
Шлю ім усім шчыры нізкі
паклон —
Няхай усіх іх і нас мінае ўсялякі
*урон.*

**Мікалай Панфілюк**

## Натура

У чалавека ёсць натура
Загарнуць сабе ўсё
Ды другога ашукаці
І лічыць яго за нішто.
Каб над другім насмяяцца
І ўпароці яму зло,
Чалавек такім ужо стаўся,
Што сабе цягне ўсё.
Не даруе ён старэчы,
Не паможа сіратам,
А стараецца мець плечы
І да сябе ўсё заграбаць.
Не баяцца людзі грэху,
Што калісь Хрыстос казаў,
Дзесяць запаведзей трымацца
Ды Ўсявышняга праслаўляць.
Вось з-за гэтага, мае мілы,
Людзі сумленне загубілі.
Хто другога ашукаў,
Той цяпер багатым стаў!
І цяпер яны за гэта
Увайшлі ў нас у саветы
Раяць, законы ўхваляюць,
Што рабілі — забываюць.
Вось за гэта менавіта
Кожны мусіць быці біты,
Што рабіў, каб сам прызнаўся
Да другога не чапляўся.

**Мікалай Лук'янюк**

## Цяжка

цяжка адбіваць паклоны
сэрца разрываецца
пот залівае вочы
вусны маўчаць
душа крычыць
ад прыгнёту
чаму ты нікто
чаму страшна
перад зямнымі панамі
чаму Ён не ўпамінаецца
за намі
бездапаможнымі
чаму мы самі
памагчы сабе не можам
а тыя
ў чорным балоце
патапіць нас хочуць

**Аўрора**

# ВЕР – НЕ ВЕР

Шаноўны Астроне!

Сон, аб якім я сёння напішу, не назавеш: спіцца і сніцца. Не ведаю, у якім памяшканні, ані дзе, я меў свой ложак з чыстай, белай пасцеллю, але не памятаю падушкі і нейкага пакрыцця. Побач з маім быў ложак, на якім ляжаў святар высокага рангу. Адлегласць між нашымі ложкамі была каля 2 метраў.

Не ведаю, ці я ляжаў на сваім ложку, але мой сусед ляжаў. Раптам я, стоячы паміж ложкамі, убачыў, як гэты святар пачаў на сваім ложку маліцца. Пасля скаціўся на паркет, стаўшы на каленях, палажыў на падлогу рукі і пачаў біць паклоны перада мною. Я стаю, а ён такі худы, быццам нейкі мусульманін, кленчыць перада мною. Пасля схапіўся за прасціну з майго ложка і ўкараскаўся на яе галавою да залы (а не да сцяны), значыць і да мяне. Штосьці важнае сказаў, але я забыўся, што. Сканаў ён, лёгшы ўверх носам, з вельмі худым тварам.

Я перакананы, Астронку, што на такі сон трапнага адказу не знойдзеш.

З пашанай
**— твой Вася — прыгажун сусветнай славы.**

PS. Зала была вялікая, як мне здаецца, але ў ёй было толькі нас двое. І чаму такі вялікі чалавек да мяне маліўся, а не да Бога? Чаму канаў не на сваёй пасцелі, а на маёй, толькі крышку памяўшы маю прасціну?.. Калі ён сканаў, я адышоўся і бадай прачнуўся, хаця гэта мяне не марозіла, ані парыла. **В. П.**

А вось жа, Вася, і знайду адказ! Будзеш карыстацца вялікай пашанай у людзей, бо ляжаў у бальніцы з вялікім чалавекам, які табе біў паклоны. Бальніца абазначала б спакой і добрае здароўе, але ўсё ж такі пра сваё здароўе задбай: чаму гэтаму чалавеку ўздумалася паміраць на тваім ложку?! Мо цябе усё ж падсцерагае нейкая небяспека... **Астрон**

PS. Даражэнькі! Хлопцы мяне, старэчу, не цікавяць. Прабач, твая прыгажосць мне абыякавая. **А.**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. незасеянае поле, 4. трохструнны трохвугольны музычны інструмент, 6. горад на Рэйне, 7. страта вадкасці ў выніку адплыву, 9. паляк, 11. дрэва сямейства крушынавых, 12. азімыя пасевы, 13. горад на поўдні Францыі, 15. Каміла, 1810—61, дзяржаўны дзеяч Італіі, 17. абсявае ніву, 18. сын караля, 19. Янаш, 1912—89, венгерскі палітык.

**Вертыкальна:** 1. пакой, дзе спяць, 2. масіўная калона, 3. на ёй колы поезда, 4. супрацоўнік Леніна, 5. Надзея, бельская паэтэса, 6. закупорка для бутэлек, 8. гібель, 9. правы прыток Рэйна, 10. грубы чалавек, 14. пара Трыстана, 16. заснавальнік першай рускай дынастыі, 17. невялікі сад у горадзе. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 21 н-ра:**

**Гарызантальна:** малако, каўнер, какаін, Осла, стан, пачастунак, Кіта, Анды, Рафаіл, Аляска, жандар.

**Вертыкальна:** матрос, кока, Каін, Ерэван, катастрофа, лапата, стакан, кінжал, дыктар, рака, ілжа.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Самборскай** з Беластока і **Яўгену Бялькевічу** з Гарадка.


**Ніва**

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Кантрасты

У панядзелкі і нядзелі
Мы фільмы з Мексікі глядзелі,
Дзе Джыны, Маўры і Ракелі,
Ірэны, Эфі, Даніэлі,
Пры дабрабыце і пры целе,
Усё імкнуліся ў пасцелі,
Кахання палкага хацелі
На ранча, дома, у гатэлі,
Ну і, вядома, у бардэлі,
І не было ў іх больш турбот.

Жанчыны ж нашы вар'яцелі —
Хоць трошкі так пажыць хацелі.
Што мелі, тое і надзелі,
Што наварылі, тое з'елі,
Ад першай чаркі захмялелі,
Ад стомы ўпалі на пасцелі,
Мужчын паклікаць не паспелі,
Заснулі, быццам анямелі,
Як лодкі поўныя на мелі, —
Да новых, заўтрашніх згрызот.

**Аляксандр Якавенка**


# Ніўка


Мал. В. ДУДКІ

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць дзве сяброўкі:

— Уяві сабе, якая з маёй суседкі няўдачніца. Купіла сабе дарагі, узбуджаючы камплект бялізны ды пайшла да лекара, а цяпер хварэе ад злосці.

— Чаму?

— Бо ён загадаў ёй паказаць толькі язык.

* * *

— Ад учора пахудзела я на два кілаграмы: сёння важылася...

— З касметыкай?

* * *

— Мая сяброўка так нервуецца з-за тае свае пахуджальнае дыеты, што траціць тры сяброўкі ў месяц.

* * *

— Што вы мне тут хваліцеся, як ваша дачка добра выйшла замуж; калі б вы ведалі, ад каго мая дачка атрымоўвае аліменты!

* * *

— Ці гэта праўда, што маеш двух каханкаў?

— Толькі аднаго: той другі, гэта мой нарачоны.

* * *

— Мая суседка не хоча нічога апрача таго, каб толькі пажыць так доўга, каб магчы дакучыць сваім дзецям так, як яны дакучылі ёй.

* * *

— Ведаеш, учора сустрэла я на вуліцы свайго першага мужа.

— І што?

— Ніколі не падумала б, што ён такі стройны і прывабны.

* * *

Чаму не маеце дзяцей?

— Ну, так складваецца, што да нас ніхто не прыходзіць і мы не ходзім да нікога.

* * *

— Чым займаецца ваш муж?

— Ён вынаходнік.

— А што ён вынайшаў?

— Штодзень іншае апраўданне для свайго вяртання апоўначы.

* * *

— Што мне рабіць? Выйшла я замуж за ўдаўца, які ўвесь час расказвае пра сваю былую жонку...

— Пачніце яму апавядаць пра свайго будучага мужа.

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

# Камітэт

## *або*

## *Адкуль бяруцца дзеячы*

Клубочкіным ніколі не сядзелася дома. Другія праводзяць жыццё пальцам аб палец не стукнуўшы ды яшчэ хваляць сабе гэтае яўнае марнатраўства часу. Пра Клубочкіных сказаць можна ўсё, толькі не тое, што жылі яны манатонна. Спакон веку тупалі вакол сваіх спраў, не забываючы ўсё-ткі і пра агульнае дабро. А бывала і так, што адракаліся ад свайго прыватнага шчасця ды ішлі змагацца за грамадскія справы.

Калі адно пакаленне Клубочкіных рыхтавала рэвалюцыю, наступнае абавязкова ўзнімала бунт супраць яе. Карчавалі лес і садзілі лес, клалі асфальт, зрывалі і ў гэтым жа месяцы садзілі кветкі, туды і назад пераносілі пясок. І не толькі за рукавамі. А калі нехта асмеліўся звярнуць увагу, што ўся гэтая мітусня нішто другое як пераліванне з пустога ў парожняе, чуў у адказ, што ён — падпольны карлік рэакцыі або цвёрдалобы камуністычны бетон.

Цудзіку Клубочкіну прыйшлося жыць у нецікавы час. Так сапраўды, то ён не называўся Цудзік, а Валодзя. Калі аднак, спраўляючыся між кроплямі, нават з найгусцейшага даджу выходзіў сухі, перасталі яго называць Валодзем. Афрадыта нарадзілася з марской пены, а Цудзік — можна сказаць, з даджу. І толькі час яму выпаў нецікавы. Рэвалюцыя — ніхто не ведае, трывае ці закончылася, карчаваць няма чаго, садзіць няма за што, а асфальт на вуліцах дастаткова дзіравы, каб і не зрываючы яго сеяць кветкі.

Чалавек жыве і часта не ведае, што яму прадбачана, якую місію нарыхтаваў Усявышні. Дробязь, побач якой тысячу разоў праходзім абыякава, не звяртаючы на яе найменшую ўвагу, нейкага дня зусім нечакана ўлазіць у вочы і чалавек, няглядзячы на акружаючы яго натоўп, крычыць ад радасці.

Знайсці на тратуары сэнс жыцця, гэта не тое самае, што знайсці тысячу, няхай сабе і новых злотаў.

Свой лёс адшукаў Клубочкін не на тратуары, хаця вельмі-вельмі блізка яго. Як заўжды ў суботнюю раніцу падышоў да кіёска, нарыхтаваў грошы і папрасіў апошні нумар „Плейбоя".

І тут пачуў, што няма. Выкупілі ўсё...

Клубочкіну стала няёмка, сорамна. Маладзён, наступны ў чарзе, быццам бы і глядзеў у другі бок, але ўсё-такі Цудзіку паказалася, што ён нат з'едліва ўсміхнуўся.

Калі жанчына, з якой ты не адзін раз быў у пасцелі, сёння не ведаць чаму трэсне цябе па мордзе і пойдзе з другім, гэтая вось жанчына становіцца тваім смяротным ворагам. Будзем пра яе па-маньяцку думаць дзень і ноч, сустрэўшы на вуліцы пакажаш пальцам, сябру шапнеш нешта на вуха, зарагочаце. Напаўголая кінеш слоўца. Нібы сабе, нібы ў натоўп. Толькі знішчаючы яе адчуеш свой вышчарблены мужчынскі гонар.

Бачыш мэту, для якой варта жыць.

Магчыма, што акцыя супраць папяровых голых баб закончыцца паспяхова. Раней ці пазней Цудзікавы актывісты наведаюць усе кіёскі. Лік гэтых прыбыткаў гандлю не павялічваецца, бо і што цяпер расце? Хіба толькі інфляцыя і беспрацоўе.

Калі да гэтай пары не высветліцца палажэнне рэвалюцыі, не знойдуцца сродкі на лесанасаджэнні і не залатаюць дзірак у вулічным асфальце, Цудзікаў лёс здаецца быць вырашаным. Шкада. Калісьці стралялі ў нас брыльянтамі па танках, цяпер прыходзіцца выкідаць брыльянты ў балота. Каб не пайшлі ўрассыпную энтузіязм, энергія, жыццярадаснасць і другія цэнныя прыкметы дзеячаў, прапаную перайменаваць Камітэт супраць парнаграфіі ў Камітэт супраць беспадстаўнай раскошы. Няхай усе дарослыя мужчыны пойдуць у самы вялікі будынак горада і прынясуць сваю мужчынскую атрыбутыку перад Цудзікава аблічча. Ён ужо дагляне, каб кожны з іх раз у год пакарыстаўся сваёй уласнасцю (абавязкова сваёй! Інакш, гэта было б, хіба, пралюбадзейства?), для дакладна акрэсленай, пракрэацыйнай мэты. Аргазм і непрадукцыйныя зносіны прапаную караць двухгадовай устрыманасцю, затое аўтараў прынамсі двайной цяжарнасці прымаць у члены Шаноўнага Камітэта.

**Міхась Андрасюк**

# *Сардэчныя* ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Лета, а я нікуды не выехала. Можа з-за гэтага вынікла ўся бяда.

Мой хлопец, з якім мы хадзілі ўжо цэлы год, неяк перастаў мець для мяне час. Некуды знікаў, а я не ведала, дзе яго шукаць. Сяброўкі таксама спаглядалі на мяне з нейкімі дзіўнымі ўсмешкамі на тварах. Шушукаліся між сабою, а ўмомант замаўкалі, калі я падыходзіла да іх. Значыць, гаварылі пра мяне. Значыць, нешта ведалі, чаго не ведала я.

Ну, і неўзабаве справа выяснілася. Аднойчы мой хлопец пазваніў мне і дамовіўся, што прыйдзе да мяне дахаты а шостай вечара. Яшчэ некалькі разоў перапытаў, ці я напэўна нікуды не выйду, ды ці буду цвёрда чакаць яго. Я пабяцала, што буду.

Сяджу ў хаце, спаглядаю то ў вакно, то на гадзіннік. А яго няма, як не было. Ну, думаю, свінка. А мо нешта яму выпала, што не змог да мяне прыйсці. Я ведала, што ў часе летніх канікул ён хацеў знайсці сабе нейкую працу, каб падзарабіць. Можа пайшоў шукаць і нешта афармляе...

А дзевятай вечара я вырашыла, што ён ужо не прыйдзе, тым больш, што ён ведаў: бацькі дома, а яны не любяць начных візітаў. Я апранулася, як у горад, і выйшла прайсціся.

Іду па цэнтральнай вуліцы, заглядаю ў вітрыны крамаў. І раптам што я бачу: у адной з прадуктовых крамаў стаіць мой хлопец, а да яго даслоўна прыклеілася даволі прыгожая, чарнявая дзяўчына.

Мне стала моташна. Увайшла я ў гэту краму. Падыходжу да іх. А я думала, што ты пайшоў працу шукаць, кажу. Загадаў ты мне цвёрда сядзець у хаце і чакаць цябе, бо, меркавала я, прыбяжыш і раскажаш мне, як і што. Дзяўчына, з якою быў мой хлопец, глядзела на мяне ў недаўменні. А ў маіх вачах паявіліся слёзы, я завярнулася і выскачыла з тае крамы, быццам ашпараная. Толькі на вуліцы я расплакалася, як дзіця.

Перад сваім домам я выцерла слёзы, каб хаця бацькі чагосьці не дадумаліся, і ў галаву мне прыйшла ідэя, каб яму адпомсціць. Як ты такі, дык і я спрабую быць такою! А захацелася зрабіць штосьці такое, каб яму было балючабалюча. Прынамсі так, як было балюча мне, калі я зразумела, што я ўжо не адзіная.

У майго хлопца ёсць сардэчны сябра, якога я ведаю ад пачатку нашага знаёмства. Яны тады былі разам, ды і пазней мы даволі часта хадзілі кудысьці ўтраіх. Я ведала, што яго сябра не быў раўнадушны ў адносінах да мяне, спаглядаў на мяне ласым вокам. Дастаткова было пазваніць яму і сказаць, што я свабодная.

Першая наша сустрэча не выйшла. Хаця ў гэтага хлопца была свая кватэра і ніхто нам не перашкаджаў, нешта (а мо нехта) стаяла між намі. Высветлілася, што ўсё ж такі патрэбны былі ўзаемныя пачуцці. Ну, не выйшла, то выйдзе іншым разам, заверыў мяне гэты хлопец. Дамовіліся сустрэцца ў яго на другі дзень. Мо будзе лепш...

На другі дзень, калі я прыйшла, на стале стаяла віно і ляжалі лімоны. Былі таксама нейкія цукеркі. Ужо мы былі гатовыя класціся ў пасцель, як пазванілі ў дзверы. Хлопец пабег адчыняць і на парозе ўбачыў майго кавалера.

Я змяшалася, але па целе прайшлі дрыжыкі задавальнення. О-о! Вінцо з лімончыкам, сказаў „кавалер", і не ў пасцелі?! Я сядзела, а тое, што ён гаварыў, прапусціла каля вуха. Добра табе так, добра! Мяне распірала радасць. Няхай і ён памучыцца.

Ну, і зноў у нас нічога не выйшла. Але няхай прынамсі думае, што і я так умею, як ён. Цяпер глядзець у яго бок не хачу, а ён, манюка, тлумачыцца, што мусіў тады зрабіць пакупкі, а гэта я яму здрадзіла. Што рабіць?

**Жэнька**

Жэнька! Ну, і добра, што ты не глядзіш у яго бок. Навошта табе такі хітрун?! Ты, будзь разумная, сядзі ў хаце, а ён, калі захоча, то цябе наведае. А сам тады праводзіць спакойна час, ведаючы, што ты ў горадзе не пакажашся. Ужо за адно гэта варта пасласць яго к чорту, а яшчэ ж ён будзе цябе рабіць здрадніцай.

Хадзі з іншымі, відаць, гэта на яго добры спосаб.

**Сэрцайка**